## Падпісвайцеся на адзіную у БССР масавую калгасную часопісь

# ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ

### (ОРГАН НАРКАМЗЕМУ І КАЛГАСЦЭНТРУ БССР)

Часопісь шырока асьвятляе на сваіх старонках жыцьцё і працу саўгасаў, калгасаў, МТС, СТКФ і МТФ.

На старонках часопісі зьмяшчаюцца матар'ялы лепшых спэцыялістых БССР аб павышэньні ўраджайнасьці, лепшым утрыманьні жывёлы, аб лепшай апрацоўцы глебы і г. д. Шырока асьвятляецца вопыт барацьбы калгасаў за падняцьце калгаснай вытворчасьці.

У часопісі заўсёды можна знайсьці адказ на ўсялякае запытаньне па сельскай гаспадарцы.

Часопісь шырока асьвятляе ўсе гаспадарча-палітычныя кампаніі.

Рэгулярна кожны месяц часопісь дае літаратурны аддзел, у якім зьмяшчаюцца апавяданьні, вершы, нарысы пра калгаснае будаўніцтва.

Часопісь выходзіць два разы ў месяц з шматлікімі малюнкамі і фото-здымкамі і каштуе ўсяго толькі:

| | | |
|---|---|---|
| На 1 год (24 нумары) . . | 3 руб. | 60 кап. |
| „ 6 мес. (12 „ ) . . | 1 „ | 80 „ |
| „ 3 „ ( 6 „ ) . . | — „ | 90 „ |

**Падпіску здавайце на пошту, альбо лістаносцу.**

**Адрас рэдакцыі: гор. Менск, Савецкая, 68.**

# ПАЛЯЎНІЧЫ БЕЛАРУСІ

ОРГАН КААПЭРАЦЫЙНА-ПРАМЫСЛОВАГА САЮЗУ ПАЛЯЎНІЧЫХ БЕЛКАХОТСАЮЗ.


ЗЬМЕСТ






№ 10-11

КАСТРЫЧНІК — ЛІСТАПАД

1932 г.


# Пятнаццаць год

Пятнаццаць год аддзяляюць нас ад часу, калі пралетарыят нашай краіны, абапіраючыся на бяднейшае сялянства, пад кіраўніцтвам партыі бальшавікоў, узяў у свае рукі дзяржаўную ўладу. За гэты час мы дасягнулі вялізарнейшых посьпехаў на фронце сацыялістычнага будаўніцтва.

Мы пабудавалі і будуем нябачаныя ў сьвеце гіганты індустрыі.

Магнітагорскі і Кузьнецкі мэталюргічныя заводы, Сталінградзкі, Харкаўскі, Чалябінскі трактарныя гіганты, Днепрабуд, Днепрасталь, Горкаўскі аўтамабільны завод, Саратаўскі завод камбайнаў, аўтазавод імя Сталіна і рад іншых заводаў, якія пушчаны да пятнаццатай гадавіны Кастрычніка—зьяўляюцца довадам нашага росту ў галіне сучаснай тэхнікі, лепш за ўсё характарызуюць маштабы нашай будоўлі.

Вялічэзны крок наперад зрабіла і наша Савецкая Беларусь, як неадлучная частка Савецкага саюзу. Пабудаваны і дзейнічаюць новыя фабрыкі і заводы першай пяцігодкі: Гомсельмаш, Бабруйскі і Гомельскі лесакамбінаты, запалкавыя фабрыкі „Х Акцябр“, „Пралетарская перамога“, швэйныя гіганты—„Сьцяг індустрыялізацыі“ ў Віцебску, „Акцябр“ у Менску, імя Дзяржынскага ў Бабруйску, імя Валадарскага ў Магілёве, вялікі скураны завод у Магілёве, элеватар і маргарынавы завод у Гомелі, панчошна-трыкатажны камбінат у Віцебску, Асіндрэс імя Сталіна, фабрыка штучнага шоўку ў Магілёве і рад іншых прадпрыемстваў.

Валавая прадукцыя СССР за пэрыяд з 1928 па 1932 год узрасла з 14,7 мільярдаў рублёў да 37 мільярдаў рублёў, гэта значыць—у два з паловаю разы. Павялічыліся кадры пралетарыяту краіны. За адзін толькі апошні год пралетарыят вырас на 2 мільёны чалавек. Армія рабочых СССР да 15-й гадавіны Кастрычніка дасягнула 18 паловаю мільёнаў чалавек.

Савецкі саюз стаў краінай самай буйнай сельскай гаспадаркі ў сьвеце. Савецкія і калектыўныя гаспадаркі зьяўляюцца асноўнымі вытворцамі збожжа і сырцу. Калгасамі ахоплены па СССР 61 процант сялянскіх гаспадарак, 80 процантаў зямлі знаходзяцца пад саўгасамі і калгасамі. Сельская гаспадарка па БССР толькі атрымала каля 2-х тысяч трактароў. У выніку гэтага, пасеўная плошча па СССР узрасла ў параўнаньні з даваенным часам на 30 мільёнаў гэктар.

Калгаснае сялянства ператварылася ў цэнтральную фігуру земляробства. Калгасьнік стаў моцнай і надзейнай апорай партыі і Савецкай улады на вёсцы.

Мы завяршылі ў мінулым годзе пабудову фундаманту сацыялістычнай экономікі. У бягучым, чацьвертым, годзе першай пяцігодкі—мы пасьпяхова заканчваем выкананьне яе пляну. Па некаторых галінах сацыялістычнага будаўніцтва пяцігадовы плян выканан за тры—два з паловай гады.

Гэтых посьпехаў Савецкі саюз дасягнуў, дзякуючы правільнаму кіраўніцтву нашай непахіснай ленінскай партыі і яе ЦК на чале з тав. Сталіным, у выніку рашучага наступленьня на капіталістычныя элемэнты, рашучай барацьбы з правымі апартуністамі і „левымі“ загібшчыкамі—агентурай клясы кулацтва, з контр-рэвалюцыйным нацыянал-дэмакратызмам у БССР, вялікадзяржаўным шавінізмам, як галоўнай небясьпекай на даным этапе, і шавінізмамі ўсіх колераў.

У той час, калі „ў нас, у СССР, растучы ўздым сацыялістычнага будаўніцтва і прамысловасьці, і ў сельскай гаспадарцы,—у іх, у капіталістаў, рашучы крызіс экономікі і ў прамысловасьці, і ў сельскай гаспадарцы“ (Сталін). Там, за мяжою Савецкага саюзу, у краінах капітала ідзе напружаны працэс пашырэньня і абвастрэньня сусьветнага крызісу, што прыняў нябывалыя памеры. Разваліваюцца векавыя ўстоі капіталізму, разбураецца яго фінансавая моц. Буйнейшыя банкі церпяць банкруцтва і крах.

Эканамічны крызіс прывёў да таго, што высокапрамысловая Германія з краіны, якая выраблялa сродкі вытворчасьці, пераутвараецца зараз у краіну лёгкай індустрыі, у краіну,—дзе адносная вага сельскагаспадарчай прадукцыі ўсё больш узрастае.

У выключна цяжкім становішчы знаходзіцца гаспадарка нашай „суседкі“ фашысцкай Польшчы. Прамысловыя раёны краіны заміраюць. Закрыты амаль усе тэкстыльныя фабрыкі Лодзі, Беластоку, Бельску. Доменныя печы завалены ўсяго на 13 пр. параўнаўча з даваенным часам.

Аграрны крызіс, які зьяўляецца састаўной часткай сусьветнага эканамічнага крыз'су, прыводзіць да галечы мільёны працоўных мас вёскі. Пралетарыі гарадоў і фабрычна-заводзкіх цэнтраў, працоўнае сялянства прызначаны на голад і сьмерць. У той час, калі ў нас, у СССР поўнасьцю ліквідавана беспрацоўе, у краінах капіталу армія беспрацоўных налічвае звыш 45 мільёнаў чалавек.

Рабочыя і працоўнае сялянства Зах. Беларусі і Зах. Украіны каленізатарскай палітыкай польскага фашызму ўжо даведзены да голаду і жабрацтва. Стогны, енкі ад катаваньняў палітзьняволеных даносяцца з-за крат польскіх турмаў. Звыш 10 тысяч лепшых барацьбітоў за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленьне—кінуты ў турмы.

І зусім „ня дзіва, што гэтыя абставіны рэвалюцыянізуюць абстаноўку, абвастраюць барацьбу клясаў і штурхаюць рабочых на новыя клясавыя бойкі“ (Сталін). З кожным днём расьце рэвалюцыйная актыўнасьць і клясавая самасьвядомасьць пралетарскіх мас. Зрок прыгнечаных капіталам мас накіраван на адзіную ў сьвеце краіну, дзе будуецца сацыялізм—СССР.

Наш рост, нашы дасягненьні на фронце сацыялістычнага будаўніцтва паскараюць набліжэньне сусьветнай пралетарскай рэвалюцыі, бо мы—ударная брыгада сусьветнага пралетарыяту, бо СССР—бацькаўшчына сусьветнай пралетарскай рэвалюцыі.

„У суадносінах сіл паміж сацыялістычным і капіталістычным сьветамі—вялізарны зрух, у першую чаргу, дзякуючы росту ўдзельнай вагі СССР, які ажыцьцяўляе гіганцкімі тэмпамі сваю вялікую праграму сацыялістычнай індустрыялізацыі, калектывізацыі і культурнай рэвалюцыі. Краіна замацавалася канчаткова на пазыцыях сацыялізму, другая пяцігодка намячае канчатковую ліквідацыю клясаў, ператварэньне ўсяго працоўнага насельніцтва краіны ў сьвядомых і актыўных будаўнікоў бясклясавага сацыялістычнага грамадзтва. Посьпехамі сацыялістычнага будаўніцтва ўсё больш забясьпечваецца эканамічная самастойнасьць краіны Саветаў у адносінах да капіталістычнага сьвету, узрасьлі яе міжнародная магутнасьць, рэвалюцыянізуючая ўзьдзейнасьць на працоўных і эксплёатуемых усіх краін, яе значэньне як базы сусьветнай сацыялістычнай рэвалюцыі“.

(XII пленум ВККІ)

Таму рабочыя, калгасьнікі і ўсе працоўныя СССР павінны з яшчэ большым энтузіязмам змагацца за далейшыя посьпехі на фронце будаўніцтва сацыялізму.

Галоўнейшай, цэнтральнай задачай у галіне сельскай гаспадаркі зьяўляецца—арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне калгасаў, павышэньне ўраджайнасьці, разьвіцьцё сацыялістычнай жывёлагадоўлі.

Ніводная краіна ў сьвеце ня мае такіх шырокіх магчымасьцяй і спрыяючых умоў для павышэньня ўраджайнасьці, як наш Савецкі саюз. Намі вырашана сусьветна-гістарычнай важнасьці задача стварэньня буйных саўгасаў і калгасаў. З кожным годам усё больш павышаецца тэхнічная ўзброенасьць сацыялістычнага земляробства. Аднак, па ўраджайнасьці нашых палёў мы далёка яшчэ адстаем ад перадавых капіталістычных краін. Мы далёка не скарысталі ўсіх магчымасьцяй і пераваг буйнага сацыялістычнага земляробства для павышэньня ўраджайнасьці. Таму, трэба „пераключыць работу ўсіх партыйна-савецкіх, камсамольскіх і гаспадарчых арганізацый, працуючых у галіне сельскай гаспадаркі,—у напрамку павышэньня ўраджайнасьці па ўсіх без выключэньня культурах, як цэнтральнай задачы разьвіцьця сельскай гаспадаркі ў даны момант“ (з пастановы ЦК УсеКП(б) і СНК СССР).

Пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі прамыслова-паляўнічая каапэрацыя дасягнула вялізарнейшых посьпехаў. За апошнія тры гады колькасьць членаў узрасла з 770 тысяч да 1250 тысяч, альбо на 60 проц. Паявы капітал сыстэмы ўзрос з 5,6 мільёнаў руб. да 20 мільёнаў руб. і г. д. Аднак, мы маем яшчэ шмат недахопаў у нашай працы.

Пятнаццатую гадавіну Кастрычніка кожнае таварыства нашага Саюзу, кожны член таварыства павінны адзначыць узмацненьнем барацьбы за выкананьне і перавыкананьне плянавых заданьняў пушнамехавых загатовак.

Другая пяцігодка ставіць вялізарныя задачы і перад прамыслова-паляўнічай каапэрацыяй. Трэба рашуча змагацца за ажыцьцяўленьне галоўнейшай задачы паляўнічай каапэрацыі, рэканструкцыі паляўнічага промыслу на тэрыторыі паляўнічых угодзьдзяў.

Шчыльней шэрагі вакол партыі Леніна. Наперад да новых перамог будаўніцтва сацыялізму!

Няхай жыве кіраўнік і арганізатар сацыялістычнага будаўніцтва—камуністычная партыя і яе ленінскі ЦК на чале з тав. Сталіным!

---

## Вышэй сьцяг Леніна! Наперад да подступаў 2-й пяцігодкі—пабудовы бясклясавага сацыялістычнага грамадзтва!

# Пленум Цэнтральнага камітэту УсеКП(б)

*Інфармацыйнае паведамленьне*




**28 верасьня—2 га кастрычніка 1932 году адбыўся пленум Цэнтральнага камітэту УсеКП(б).**

**Пленум разглядзеў наступныя пытаньні:**

**1. Справаздачны даклад Цэнтрасаюзу і Наркамснабу аб разьвіцьці савецкага гандлю з садакладам ЦКК РСІ.**

**2. Справаздачны даклад Наркамлёгпраму, НКЦП і Прамкаапэрацыі аб вытворчасьці тавараў шырокага спажываньня з садакладам ЦКК РСІ.**

**3. Справаздачны даклад НКЦП аб разьвіцьці чорнай мэталюргіі з садакладам ЦКК РСІ.**

# Мабілізаваць партыю, рабочыя і калгасныя масы на выкананьне рашэньняў пленуму ЦК

Скончыўся пленум ЦК УсеКП(б).

Пленум вынес рашэньне **аб разгортваньні савецкага гандлю.** У гэтым разгортваньні зараз ключ да палепшаньня снабжэньня рабочых. На перакор „лявацкім“ галавацяпам, партыя неаднаразова падкрэсьлівала, што выцясьненьне прыватніка зусім не азначае зьнішчэньня ўсялякага гандлю, што нам патрэбна ня зьвёртваньне, а разгортваньне таваразвароту, што толькі разгортваньне савецкага гандлю і таваразвароту прывядзе да палепшаньня снабжэньня пралетарскіх і працоўных мас.

Ці маем мы посьпехі ў справе разгортваньня савецкага гандлю? Бязумоўна, маем. Аб гэтым кажуць лічбы, прыведзеныя ў рашэньні пленуму.

Аднак, наша вырасшая за апошні час гандлёвая сетка зусім недастаткова. Яна яшчэ ня зусім заняла месца, ачышчанае ад прыватніка. Яе неабходна ўсямерна разьвіваць далей.

Ці ўдалося партыі павялічыць колькасьць тавараў на рынку? Бязумоўна, удалося. Асабліва па лініі тавараснабжэньня вёскі.

І ўсё-ж такі тавараў не хапае ў той час, як на шматлікіх вучастках назіраецца затаварваньне, практыкуецца прымусовы асартымэнт.

Патрэбна дабіцца павялічэньня таварных мас для рынку і патрэбна больш умела і гнутка манэўраваць таварнымі рэсурсамі, што ёсьць у нашым распараджэньні.

Наш гандлёвы апарат, у прыватнасьці каапэрацыя, атрымоўвае свае тавары па двух асноўных каналах: цэнтралізаванае снабжэньне і самазагатоўкі.

Бюракраты і інждывенцы, якіх яшчэ вельмі шмат у каапэрацыйным апараце, прыкрываліся часам „лявацкімі“ фразамі, хацелі-б зьвесьці ўсю ролю каапэрацыі да ўраўніцельнага разьмеркаваньня фонду цэнтралізаванага снабжэньня. Трэба раз і назаўсёды выкрыць антыпартыйны характар такой устаноўкі.

Задача каапэрацыі, задача камуністаў, якія працуюць у ёй, заключаецца **ў рашучым перамаганьні гэтай антыпартыйнай устаноўкі, максымальным разгортваньні самазагатовак, у пашырэньні ўласнай харчовай базы каапэрацыі, асабліва пры ЗРК прадпрыемстваў, далейшым разьвіцьці прыгарадных гаспадарак.**

Вось рэальны шлях узмацненьня савецкай каапэрацыі, палепшаньня снабжэньня рабочых.

Аднак, для гэтага неабходна ўзмацніць каапэрацыйныя кадры, упарадкаваць справу загатовак непараўнаўча шырэй і паўней выкарыстаць рэсурсы, якія можа нам даць калгасны гандаль, рашуча змагаючыся з права-апартуністычным, па існасьці буржуазна-лібэральным разуменьнем савецкага, у прыватнасьці калгаснага гандлю, рашуча змагаючыся са спэкуляцыяй і спэкулянцкімі цэнамі, выкараняючы перакупшчыкаў і спэкулянтаў.

Асобныя каапэрацыйныя арганізацыі, ЗРК прадпрыемстваў маюць буйныя дасягненьні ў пастаноўцы сваіх гаспадарак: гародных калгасаў, малочных фэрм, сьвінарнікаў, трусатнікаў. Па гэтых перадавых арганізацыях трэба раўняцца.

І трэба ўсямерна заахвочваць разьвіцьцё індывідуальнай жывёлагадоўлі, птушкагадоўлі і г. д. сярод рабочых. У нас яшчэ ёсьць значная колькасьць „лявацкіх“ галавацяпаў, якія лічаць, што сапраўдным пралетарам зазорна мець сваю сьвіньню, кур, гарод, якія бачаць у гэтым гаспадарчае абрастаньне, парушэньне пралетарскай этыкі.

Гэтым баўтунам і галавацяпам трэба раз назаўсёды растлумачыць, што мы жывём не пры капіталізьме, а пры Савецкай уладзе. Уласная хатняя гаспадарка прывязвала раней рабочага да капіталізму, а цяпер прывязвае яго да савецкага ладу. Толькі зусім безнадзейныя крэціны або яўна чужыя камунізму элемэнты могуць ня бачыць гэтай розьніцы.

Выключнае значэньне набывае зараз **сыстэма грамадзкага харчаваньня**. Наша арганізацыя грамадзкага харчаваньня абслугоўвае да 15 млн. чалавек. Яна мае вялізарныя рэсурсы. Але гэтыя рэсурсы выключна нядбайна выкарыстоўваюцца. Да гэтае пары з боку шмат якіх гаспадарнікаў прафэсыяналістых, некаторых мясцовых партарганізацый гэтай справе не надана дастатковай увагі.

**Час пакласьці канец бюракратычнай нядбайнасьці, барскаму зьневажаньню да пытаньняў грамадзкага харчаваньня, каапэрацыі і савецкага гандлю, час павярнуць гаспадарчыя, прафсаюзныя і мясцовыя партыйныя арганізацыі тварам да пытаньняў каапэрацыі і савецкага гандлю.**



каб нарэшце было ўсвоена, што няма для камуніста задачы больш ганаровай, чым палепшаньне становішча рабочых.

Разгортваньне савецкага гандлю залежыць ня толькі ад уменьня яго арганізаваць, ад рашучага перамаганьня зьневажальных адносін да яго, якое яшчэ ёсьць у асобных праслойках партыі. Яно залежыць у вялізнай ступені ад нашых таварных рэсурсаў, **ад нашай прамысловасьці, працуючай на шырокі рынак.**

Партыя ніколі не зьневажала разьвіцьцём лёгкай індустрыі. Прадукцыя нашай лёгкай прамысловасьці з 1928 па 1932 год павялічылася на 160 з лішкам процантаў. У нас вырас за апошнія годы цэлы рад новых галін лёгкай прамысловасьці, некаторыя яе галіны каласальна павялічылі сваю прадукцыю па параўнаньні з даваенным часам (скурана-абутковая, швэйная і г. д.). Мы ўжо не гаворым аб харчовай прамысловасьці.

На 16 зьезьдзе ў палітычнай справаздачы ЦК тав. **Сталін** казаў:

**„Новае ў разьвіцьці нашай прамысловасьці заключаецца між іншым у тым, што мы маем цяпер магчымасьць разьвіваць паскораным тэмпам цяжкую і лёгкую прамысловасьць“.**

Увесну 1932 году ЦК прыняў рад пастаноў аб павялічэньні вытворчасьці прадметаў шырокага спажываньня па лініі лёгкай і цяжкай прамысловасьці, а таксама па лініі прамкаапэрацыі. Рашэньне пленуму ЦК адзначае **нездавальняючую работу наркаматаў лёгкай і цяжкай прамысловасьці, а таксама і прамкаапэрацыі** па выкананьні гэтых пастаноў. Рашэньне пленуму ЦК намячае вялікую разгорнутую праграму пашырэньня вытворчасьці прадметаў шырспажыву.

Умовай выкананьня гэтай праграмы зьяўляецца рашучае выпраўленьне недахопаў у кіраўніцтве наркаматаў (асабліва Наркамлёгпраму) і прамкаапэрацыі вытворчасьцю прадметаў шырспажыву, **рашучае ўзмацненьне ўвагі партыйных арганізацый да лёгкай прамысловасьці.**

**Зьневажаньне да разьвіцьця лёгкай індустрыі і вытворчасьці прадметаў шырспажыву ёсьць злачыннае, „левацкае“ галавацяпства, з якім партыя будзе весьці бязьлітасную барацьбу.**

Аднак, неабходнай умовай хуткага разьвіцьця лёгкай прамысловасьці, як і ўсёй нашай савецкай гаспадаркі, неабходнай умовай насычэньня ўсіх каналаў таваразвароту дастатковай колькасьцю прадметаў шырспажыву, зьяўляецца далейшае ўмацаваньне асноўнай базы нашага сацыялістычнага будаўніцтва — цяжкай індустрыі, перш за ўсё яе вядучай галіны—**чорнай мэталюргіі.**

На працягу апошніх год, у рашучай барацьбе з правым апартунізмам і „левацкім“ пражэкцёрствам, партыя дабілася значных посьпехаў у разьвіцьці чорнай мэталюргіі. Увайшлі ў строй дзесяткі новых домен, мартэнаў. За адзін толькі апошні год выплаўка чыгуну павялічылася на 28 проц. Есьць вялікія дасягненьні ў вытворчасьці якасных сталяй. Аднак, вялізарныя магчымасьці нашай чорнай мэталюргіі не выкарыстоўваюцца дастаткова і мэталюргія ідзе значна адстаючы ад пляну (асабліва па вытворчасьці сталі і пракату), затрымоўваючы разьвіцьцё ўсіх астатніх галін прамысловасьці. Гэта адбывалася да гэтага часу дзякуючы кепскай рабоце заводаў і аб'яднаньняў, прафсаюзных і партыйных арганізацый, а таксама дзякуючы недастаткова канкрэтнаму кіраўніцтву з боку Наркамцяжпраму.

Рашэньне ЦК павінна стаць рашучым пераломным пунктам у разьвіцьці чорнай мэталюргіі, у ліквідацыі яе адставаньня, што затрымлівае работу ўсёй нашай гаспадаркі. Для гэтага неабходна ў першую чаргу палепшаньне работы самой чорнай мэталюргіі, усіх зьвеньняў яе кіраўніцтва.

Для гэтага неабходна таксама ўзмацненьне ўвагі да мэталюргіі з боку ўсёй партыі і ўсіх гаспадарчых арганізацый. Сур'ёзная пагроза далейшаму разгортваньню нашай мэталюргіі складаецца зараз з прычыны адставаньня, якое працягваецца па вугальнай прамысловасьці, а таксама з боку транспарту.

Гэту пагрозу неабходна ва што-б там ні стала папярэдзіць.

Пленум ЦК, які толькі што закончыўся, у сваіх рашэньнях даў разгорнутую бальшавіцкую крытыку работы цэлага раду нашых гаспадарчых арганізацый. Гэта крытыка дапаможа ім выкрыць недахопы.

**Рашучая бальшавіцкая самакрытыка ёсьць лепшы шлях бязьлітаснага выкрыцьця і зьнішчэньня недахопаў.** Толькі заскарузлыя бюракраты, самаўлюбёныя нарцысы, „очковтиратели“ і алілюйшчыкі могуць супярэчыць супроць бальшавіцкай самакрытыкі.

Адкрытыя і скрытыя апартуністыя — агентура нашых клясавых ворагаў, наскрозь прагніўшыя асколкі разьбітых апазыцыйных груповак, якія (групоўкі) зусім адарваліся ад рабочай клясы, скаціліся на контррэвалюцыйны шлях, буржуазныя перараджэнцы калі кольвечы выпадкова захаваўшыя пры сабе партыйныя білеты, будуць зларадваць з прычыны нашых асобных недахопаў, што бязьлітасна ўскрываюцца самой партыяй. Гэтыя паны яшчэ мараць аб буржуазнай рэстаўрацыі ў нашай краіне, аб аднаўленьні кулацтва.

Партыя пераможна крышыць адчаяннае супраціўленьне рэштках ліквідуемага клясавага ворага і будзе таксама бязьлітасна дабіваць яго прыкрытых камуністычным флягам агентаў, якія спрабуюць дзе кольвечы ўзьняць галаву.

Партыя будзе бязьлітасна выкрываць гнілых лібэралаў і прымірэнцаў, лічачых па сваёй добрай душы, што з апартунізмам ужо пакончана, спрабуючых супроцьпастаўляць змаганьне з правым і „левым“ апартунізмам, з правым апартунізмам як галоўнай небясьпекай, дзелавой практычнай рабоце.

Пленум ЦК вынес важнейшыя рашэньні па чарговых пытаньнях сацыялістычнага будаўніцтва. **Вакол гэтых рашэньняў павінна мабілізавацца ўся партыя і пад яе кіраўніцтвам усе рабочыя і калгасныя масы.**

**Дабіцца ўсямернага разгортваньня савецкага, калгаснага гандлю, палепшаньня работы каапэрацыі, грамадзкага харчаваньня. Дабіцца рашучага палепшаньня снабжэньня пралетарскіх і працоўных мас.**

**Павярнуць гаспадарчыя і партыйныя арганізацыі тварам да вытворчасьці тавараў шырокага спажываньня.** Бяз гэтага немагчыма сапраўднае і ўстойлівае палепшаньне снабжэньня рабочых.

**Ліквідаваць адставаньне чорнай мэталюргіі—важнейшай вядучай галіны нашай прамысловасьці.**

**Забясьпечыць канкрэтнае бальшавіцкае кіраўніцтва на ўсіх вучастках нашай гаспадаркі.**

**Забясьпечыць выкананьне першай пяцігодкі і заваяваць подступы да другой.**

(„Праўда“).

# Паляўнічая каапэрацыя Беларусі да пятнаццацігодзьдзя Кастрычніцкай Рэвалюцыі

Паляўнічая каапэрацыя нарадзілася ў бурных хвалях Кастрычніцкай рэвалюцыі. З таго часу ёй пройдзены вялізарны шлях барацьбы за тыя задачы, якія былі перад ёй пастаўлены партыяй і ўрадам.

Якія-ж гэтыя задачы?

Да Кастрычніцкай рэвалюцыі паляваньне знаходзілася ў руках памешчыкаў. Правам паляваньня разам з уласьнікамі паляўнічых угодзьдзяў—памешчыкамі, карысталіся чыноўнікі, прыслужнікі клясы эксплёататараў, а таксама кулакі. Рабочы і бядняк—селянін находзіўся ў кабале капіталістаў, памешчыкаў і кулакоў. Займацца паляваньнем яму ня было дзе і ня было магчымасьці. Таму зусім зразумела, што і зараз-жа пасьля Кастрычніцкай рэвалюцыі, пасьля экспрапрыяцыі памешчыкаў і капіталістаў саюз паляўнічых—паляўнічая каапэрацыя была засьмечана чыноўнікамі—у горадзе, кулакамі—у вёсцы, якія тады былі ў саюзе паляўнічых.

Для таго часу такое становішча зусім зразумела. Паляваньне тады яшчэ зьяўлялася толькі „приятным препровождением времени“ для заможнай часткі насельніцтва. Паляўнічая каапэрацыя яшчэ толькі нарадзілася, была слабая і не спраўлялася з тымі задачамі, якія сталі перад ёй. Аб гэтым гаворыць хаця-б той факт, што ў 1927-28 годзе паляўнічая каапэрацыя нарыхтоўвала пушніны на суму ня больш 80.000 рублёў. Што-ж датычыць дзічанарыхтовак, дык такіх тады і ў паміне ня было.

Але пасьля імпэрыялістычнай і грамадзянскай вайны і эканамічнай разрухі пачаўся аднаўленчы пэрыяд, а потым і пэрыяд рэканструкцыі нашае народнае гаспадаркі. Пачаўся магутны ўздым сацыялістычнага будаўніцтва. У першай пяцігодцы былі закладзены такія гіганты прамысловасьці, як Волхаўбуд, Днепрабуд, Магнітагорск, Кузьнецкбуд і іншыя. Вырасьлі і гіганты саўгасы і калгасы,—сапраўдныя фабрыкі зерня. Разам з рэканструкцыяй народнай гаспадаркі, з магутным ростам нашай прамысловасьці і сельскай гаспадаркі, палепшылася становішча працоўных. Тады пачаўся новы струмень уступленьня ў члены паляўнічай каапэрацыі за кошт рабочых ад станка, за кошт калгасьнікаў і беднякоў. Рамкі саюзу сталі цесны.

Тым часам, разам з ростам нашае сацыялістычнае прамысловасьці і сельскай гаспадаркі перад паляўнічай каапэрацыяй паўсталі новыя задачы, задачы ўключэньня паляўнічай каапэрацыі і гаспадаркі ў наша сацыялістычнае будаўніцтва, як часткі ўсёй нашай народнай гаспадаркі.

Вядома, складу паляўнічых таго часу, г. зн. у пэрыяд наступленьня сацыялістычнага сэктара на капіталістычныя элемэнты ў горадзе і вёсцы, задачы, якія-б садзейнічалі ўсяму нашаму сацыялістычнаму будаўніцтву, былі не пад сілу. Бо ў тыя часы паляўнічая каапэрацыя ўяўляла сабой якіх небудзь 10.000 членаў яе, акрамя таго і гэты склад быў, як ужо сказана раней, засьмечан чужым элемэнтам—былымі чыноўніцтвам у горадзе і кулаком у вёсцы, якія ўсімі сродкамі імкнуліся сарваць наша сацыялістычнае будаўніцтва, у тым ліку і работу паляўнічай каапэрацыі, спадзяючыся яшчэ на рэстаўрацыю капіталістаў, памешчыкаў і кулакоў. Тым часам саюз паляўнічых даў вялікі рост за кошт працоўных мас. Дзесяткамі соцен і тысяч уліваліся новыя члены ў саюз. Процант членаў КП(б)Б і КСМ значна павысіўся.

Тады быў дадзены адпор клясава варожаму элемэнту ў нашай паляўнічай каапэрацыі. Пачалася чыстка радоў паляўнічых.

Такім чынам паляўнічая каапэрацыя пад няўхільным кіраўніцтвам камуністычнай партыі, ажыцьцяўляючы на справе яе генэральную лінію, выкінуўшы з сваіх радоў варожы элемэнт, дасягнула за апошнія гады значных посьпехаў. Зараз саюз складаецца амаль з 40.000 паляўнічых. Якасна яе склад значна палепшыўся. На 1-е студзеня 1932 году рабочых у саюзе было 4.974 чалавек, вайсковых служачых 821, міліцыі—476, лясной варты—5509, інвалідаў—пэнсіянэраў—387, калгасьнікаў—6.573, сялян беднякоў, вызваленых ад уплаты падаткаў—6.117, сялян плоцячых да 20 руб. у год падатку—7.135, ад 20 да 30 руб.—3.751 і звыш 30 руб. толькі 2.105 чалавек па ўсёй сыстэме. Апрача таго было каапэравана за кошт фондаў і ільгот—960 чал.

Па партыйнасьці і прафэсіі склад саюзу паляўнічых зараз мае наступны малюнак. Сяброў КП(б)Б і кандыдатаў—5.097, камсамольцаў—973, беспартыйных 34.158, сяброў саюзу—10.116, не сяброў саюзу—26.687, саматужнікаў—209, вольнай прафэсіі—18 чалавек. Вось якія посьпехі мы маем у палепшаньні сацыяльнага складу паляўнічай каапэрацыі да пятнаццацігодзьдзя Кастрычніцкай рэвалюцыі.

Ня меншыя дасягненьні ёсьць і ў галіне арганізацыі сыстэмы паляўнічай каапэрацыі. Акруговыя таварыствы пры буйных прамысловых цэнтрах (акруговых гарадох) ліквідаваны, а замест іх утворана 75 раённых таварystваў, якія, у сваю чаргу, кіруюць работай 634 паляўнічых ячэек пры сельсаветах, буйных фабрыках і заводах, калгасах і саўгасах. Такое мерапрыемства значна наблізіла апарат сыстэмы да паляўнічых мас, значна палепшыла іх абслугоўваньне.

Што датычыць фінансавай часткі работы каапэрацыі, дык і тут ёсьць вельмі вялікія дасягненьні. Зараз саюз дабіўся бездэфіцытнасьці ў сваёй рабоце, і мае, нават, сацнакапленьне.

Але самае галоўнае дасягненьне ёсьць у галіне гаспадарчай дзейнасьці каапэрацыі, у галіне вытворчасьці. У той час, калі ў першыя гады сваёй арганізацыі саюз паляўнічых быў амаль што „аматарскай“ арганізацыяй, у апошнія гады магутнага ўздыму будаўніцтва нашай народнай гаспадаркі ён вельмі пасьпяхова пераключыўся на вытворчыя мэтады працы.

Паляўнічая гаспадарка ня толькі аднаўлена, але ўступіла таксама ў свой рэканструкцыйны пэрыяд. Ужо з гэтага году Белкахотсаюзам павінна быць пабудавана некалькі прыпісных гаспадарак і зьвераводчых фэрм. Значна абагаціліся паляўнічыя

ўгодзьдзі і дзічынай. За гэта гаворыць той факт, што зараз на тэрыторыі Беларусі займаецца паляўнічым промыслам 40.000 паляўнічых, якія, замест 80 тысяч у 1927-28 годзе, даюць пушніны на сотні тысяч рублёў, ня лічачы нарыхтовак мяса дзічы, якога ў гэтым годзе паляўнічая каапэрацыя Беларусі павінна даць каля 70 тон.

Вось якія посьпехі мы маем у нарыхтоўках пушмехсыравіны і дзічанарыхтоўках.

Разам з гэтым трэба адзначыць вельмі пасьпяховую работу каапэрацыі ў галіне зьнішчэньня такіх драпежнікаў, шкодзячых ня толькі сельскай гаспадарцы, а і паляўнічай, як воўк. За час існаваньня паляўнічага саюзу гэты зьвер адстрэлены ў вялікай колькасьці. Разам з ваўком—драпежнікам чатырохногім, паляўнічая каапэрацыя пасьпяхова вяла і вядзе барацьбу з драпежнікам двуногім—браканьерам, і драпежнікам пярнатым. Гэта таксама дасягненьні.

Але работа паляўнічай каапэрацыі і яе посьпехі не абмяжоўваюцца толькі паляўнічай гаспадаркай. Яна выконвала і выконвае цэлы рад грамадзка-палітычных кампаній, кампаній па хлебанарыхтоўках, па веснавой і асеньняй сяўбе, па мабілізацыі сродкаў і т. д. Наогул нельга абмежаваць работу яе (каапэрацыі) знутры сыстэмнымі рамкамі, бо тое, за што яна пасьпяхова змагаецца, мае вялізарнае палітычнае значэньне, а таксама значэньне для ўсяго нашага сацыялістычнага будаўніцтва, бо за тую пушніну, за скуркі тых зьвяроў, якіх здабывае наш савецкі паляўнічы, купляюцца за межамі станкі і машыны для абсталяваньня нашых новых фабрык і заводаў.

Паляўнічая каапэрацыя сваячасова адгукнулася на заклік партыі і рабочае клясы і ў сэнсе жывёлагадоўлі. Гэтую задачу яна часткова ўзяла на сябе і вельмі пасьпяхова разьвязвае. Ужо зараз Белкахотсаюз мае 30 трусаводных фэрм з стадам 6000 галоў трусоў. На 1 студзеня 1933 году, без павялічэньня фэрм яно будзе даведзена да 10500 шт. трусоў. Вытворчы плян па трусагадоўлі на 2-ю пяцігодку прадугледжан Белкахотсаюзам у наступным разрэзе: на 1933 год—11.500, на 1934 г.—25.000 галоў, на 1935 г.—30.000 галоў, на 1936 г.—34.000 і на 1 студзеня 1937 г.—38.000 галоў.

Нечага сумнявацца, што такі рост трусагадоўлі значна зьмякчыць так званую мясную праблему.

Такавы нашы дасягненьні.

Адзначаючы іх, зусім законамерна ўстае пытаньне: чым тлумачацца нашы дасягненьні?

Дасягненьні паляўнічай каапэрацыі і гаспадаркі, як яе непарыўнай часткі, тлумачацца ростам нашага сацыялістычнага будаўніцтва, палепшаньнем матар'яльнага становішча працоўных мас, колькасным і якасным павялічэньнем рабочае клясы. За апошні год лік рабочых вырас на 2 мільёны чалавек і зараз у нас у прамысловасьці занята 18,5 млн. рабочых.

Праўда, у нас ёсьць цэлы шэраг усім вядомых часовых цяжкасьцяй, але і гэтыя цяжкасьці тлумачацца ня чым іншым, як нашым ростам, ростам рабочае клясы за кошт занятых людзей у сельскай гаспадарцы; акрамя таго, гэтыя цяжкасьці тлумачацца яшчэ і тым, што Краіна саветаў знаходзіцца ў капіталістычным абкружэньні і клясавы вораг—кулак, шкоднік і іншы, разьбіты на галаву нашым ростам, перапалоханы, спадзяецца яшчэ пажыць за кошт працы рабочае клясы і імкнецца шкодзіць. Але стаўка апартуністых, як правых, так і „левых“—агентаў кулакоў і здраднікаў рэвалюцыйнай справе—біта і будзе біта.

Але гаворачы аб дасягненьнях паляўнічай каапэрацыі Беларусі да пятнаццацігодзьдзя Кастрычніцкай рэвалюцыі, трэба адзначыць і недахопы ў яе рабоце. Перш на перш яшчэ досыць марудна праходзіць падрыхтоўка да рэканструкцыі паляўнічай гаспадаркі. Мы яшчэ не пабудавалі ніводнай рэнтабельнай прыпісной калектыўнай гаспадаркі. Нашы вытворчыя пляны яшчэ ня выконваюцца, ня гледзячы на дасягненьні ў гэтай галіне за апошнія гады. Так, напрыклад, пляны па пушнамехнарыхтоўках за тры першых кварталы бягучага году паляўнічай каапэрацыяй недавыкананы. Такое самае становішча і з нарыхтоўкамі дзічы, грыбоў, ягад і інш.

Сьвяткуючы пятнаццацігодзьдзе Кастрычніцкай рэвалюцыі, паляўнічая маса павінна шчыльней згуртавацца наваколь выкананьня тых задач, якія рабочай клясы пастаўлены перад паляўнічай каапэрацыяй. Наш савецкі, культурны паляўнічы павінен культурна паляваць. Да шаснаццацігодзьдзя Кастрычніцкай рэвалюцыі савецкі паляўнічы Беларусі павінен мець вызначаныя па пляне Белкахотсаюзу 12 прыпісных паляўнічых гаспадарак. Без рэканструкцыі і будаўніцтва паляўнічай гаспадаркі іх, немагчыма правільнае паляваньне.

Выкарыстаем усе прыродныя магчымасьці на пабудову бясклясавай грамады—сацыялізму.

У чацьверты рашаючы квартал ліквідуем прарывы першых трох кварталаў па пушнамехнарыхтоўках.

Адшукаем дадатковыя рэсурсы харчаваньня.

Дамо рабочым гарадоў Беларусі 70 тон мяса дзічы ў апошнім квартале 1932 г.

Шчыльней арганізуемся вакол задачы сацыялістычнага будаўніцтва, вакол партыі Леніна.

Няхай жыве кіраўнік і арганізатар пабудовы бясклясавай грамады — сацыялізму, Камуністычная партыя і яе правадыр тав. Сталін.

---

**За рэканструкцыю і будаўніцтва паляўнічай гаспадаркі!**

**Пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі—у бой за плян пушнамехавых загатовак, за новыя рэсурсы рабочага забесьпячэньня!**



Вітрына ўдарнікаў Днепрабуду.

# Волат у строй

I

У 1920 годзе Краіну саветаў, зацiснутую ў сьмяротныя абцугі інтэрвэнцыі, пылаючую ў агні грамадзянскай вайны, наведаў славуты ангельскі пісьменнік Гэрберт Уэлс, аўтар шматлікіх утапічных раманаў, чалавек, прафэсіяй якога было глядзець у будучыню.

Уэлс меў гутарку з У. І. Леніным.

Ён пісаў потым аб гэтай гутарцы ў кнізе „Расія ў імгле“:

„Ленін хоць і адкідывае, як прававерны марксыст, усялякія утопіі, аднак у канцы канцоў сам упаў ва утопію.

Ён усімі сіламі падтрымоўвае плян арганізацыі ў Расіі гіганцкіх электрычных станцый, якія павінны абслугоўваць цэлыя вобласьці сьветам, вадой і рухаючай сілай. Ён запэўніў мяне, што дзьве такіх вопытных станцый ужо ёсьць.

Ці магчыма сабе прадставіць больш сьмелы праэкт у вялічэзнай раўніннай краіне з бясконцымі лясамі і няпісьменнымі сялянамі, з мізэрным разьвіцьцём тэхнікі, з прамысловасьцю і гандлем,— якія агонізуюць. Падобнага роду электрыфікацыя ўжо маецца ў Галяндыі, казалі аб ёй у Англіі і зусім магчыма, што ў гэтых густа населеных і прамысловых краінах яна будзе мець посьпех, будзе справай карыснай і эканомнай. Але прадставіць сябе яе ажыцьцяўленьне ў Расіі магчыма толькі пры дапамозе вельмі багатай фантазіі. Я асабіста нічога падобнага прадставіць сабе не магу. Але гэты маленькі чалавек у Крэмлі як бачна можа“.

Уэлс ня ведаў, што ў гэты час мозг рэвалюцыі—Крэмль напружана працаваў над пытаньнем электрыфікацыі краіны. Уэлс ня ведаў, што рукой найвялікшага майстра рэвалюцыі—Уладзімера Ільліча Леніна, была ўжо напісана творчая формула гэтай рэвалюцыі: „Камунізм ёсьць савецкая ўлада, плюс электрыфікацыя ўсёй краіны“.

Уэлс глядзеў на становішча рэчаў вачыма сусьветнай буржуазіі, якая спадзявалася згасіць полымя рэвалюцыі пераможнымі маршамі армій інтэрвэнцыі і ў думках ужо бачыла на абшарах адной шостай часткі сьвету адноўлены парадак капіталістычнай эксплёатацыі.

З іранічнай усьмешкай Уэлс успамянуў „дзівацкія“ экспэрымэнты бальшавікоў у кірунку электрыфікацыі, як асуджаныя на няўдачу.

У гэты час на Волхаве пралетарыят будаваў першую буйную электрастанцыю, якая стала сымбалам творчай работы пралетарскай рэвалюцыі, уступаўшай у першы этап гаспадарчага будаўніцтва.

Волхаўбуд нарадзіўся ў дні, калі Дзянікін, заўладаўшы Арлом, сунуўся ў наступ на Тулу, калі Юдзніч займаў артылерыйскія пазыцыі для абстрэлу Ленінграду. На глухой пустэчы каля станцыі Званка, кучка энтузіястаў, узначаленая інжынэрам Графтыо,—на жорсткім пайку кадраў, будаўнічых матар'ялаў і хлеба, павяла ўпартую барацьбу за гідрацэнтраль. Шчыльна зьвязаная з Леніным, яна перамагала ўсе перашкоды таго часу, якія сталі на шляху, ад сабатажу старых інжынэраў, да водгуку замежных газэт „пакуйце вашы чэмаданы, паны“, уключна.

Будаўнікі Волхаўбуду цягнулі цэглу за цэглай з-пад Масквы, Саратаву, Чарнігаву, Бахмача. Яны тварылі Волхаўбуд і высокую якасьць чалавечага матар'ялу адначасова. І як фронт рыхтаваў і гартаваў кадры бальшавікоў-будаўнікоў, так і Волхаўбуд накапляў вялічэзны вопыт арганізацыі буйных гідра-будаўнічых работ, якіх ня ведала царская Расія, рыхтаваў кадраў будаўнікоў і мантажнікаў

для будучых волатаў электрыфікацыі. Волхаўбуд быў фронтам. Першая адзінка—ён быў уступнай часткай вялікіх работ, разгорнутых Савецкім Саюзам у выкананьне гістарычнага Ленінскага лёзунгу.

II.

Ужо ў 1920 годзе перад краінай паўстае абрыс будучых работ, разгорнуты Леніным у грандыёзным пляне электрыфікацыі, што быў створаны ў напружанай абстаноўцы грамадзянскай вайны.

У 1920 годзе, на пасяджэньні ВСНГ быў абгавораны і прыняты праэкт прафэсара Александрава аб пабудове на Дняпры гідрастанцыі, плаціны і шлюза,—праэкт, што зьяўляўся складанай часткай пляну ГОЭЛРО, аб якім Сталін сказаў:

„добра складзеная кніга, майстэрская накрэсьленьне адзінага і сапраўды дзяржаўнага пляну, без кавычак“.

Плян ГОЭЛРО і праэкт Днепрабуду былі зацьверджаны VIII зьездам Саветаў. Праэкт Днепрабуду заключаўся ў наступным:

„Кандэнсуючы ў адным месцы паданьне вады, што назіраецца зараз у парожыстай частцы Дняпра, можна стварыць гідра-электрычную станцыю каласальнай магутнасьці і разам з тым абярнуць гэты, зараз парожысты, вучастак Дняпра ў судаходны“.

8 лістапада 1927 году ў выкананьне пастановы Ураду Саюзу ССР ад 7 лютага Днепрабуд быў урачыста закладзены Урадам УССР.



Плаціна Днепрабуда.

Ён пачаў жыць праз год пасьля пуску Волхаў-ДЭС'а, закончанага ўжо без Уладзімера Ільліча.

Ад перамогі на Волхаве, краіна Саветаў пачала гісторыю перамогі на Дняпры.

III.

Сотні год непакорны Дняпро імчаўся праз Валдайскія горы да Чорнага мора, страшэнны сваімі дзевяцьцю парогамі між Днепрапятроўскам і Запарожжам.

Дзесяткі год царская Расія спрабавала праэктамі палкоўніка Фалеева, інжынэра Франсуа дэ-Ролана, Шышова і 20-цю другімі, чарцяжамі якіх можна было запрудзіць вагоны, перамагчы Дняпро, каб адчыніць шлях грузам расійскага капітала з Балтыцкага ў Чорнае мора. Ніводзін з праэктаў ня быў рэалізаваны. На іх шляху стаяла нязломнае супраціўленьне Дняпроўскіх абшарнікаў і бясьсільле ўраду каранаваных фэльдфэбеляў укласьці мільёны, каб адчыніць вялікі шлях праз Дняпро.

І лёгка зразумець тую навалу насьмешак, зьдзекваньняў, паклёпаў, з якой сустрэў замежны друк будаўніцтва на Дняпры. Чарговы „экспэрымэнт“ бальшавікоў быў на розныя лады асьвістаны ў самым пачатку, тым болей, што запраэктаваная на 150 тысяч конскіх сіл магутнасьць Дняпроўскай устаноўкі была падвышана да 480 тысяч конскіх сіл. І пабудова разьлічвалася ўсяго на 5 год.

Аднак, наступ пачаўся.

У голым стэпу, каля Кічкасу, пачалі расьці дамы, баракі; прышлі тысячы грабароў, асвойваўшых, грунт, рыхтаваўшых аснову для бэтонных работ. Будаўніцтва абрастае дапаможнымі прадпрыемствамі. На пляцоўцы будаўніцтва зьяўляюцца волаты механічных работ: краны—„дэррыкі“, „індуст'ялы“, вялічэзныя экскаватары, аўтамашыны, „думкары“.

Будаўніцтва набірае тэмп. Сьвята першай гадавіны закладкі будаўніцтва—лістапад 1928 году адзначаецца пачаткам бэтоніроўкі бычка ў левай пратоцы плаціны.

Гэта ўступленьне ў жыцьцё. Два мільёны трыста тысяч тон цамэнту, пяску, шчэбня, патрабавала пабудова 760-мэтровай, найвялікшай у сьвеце плаціны. Ражы перамычкі, што аднялі ў будаўніцтва 1928 год,—ахоўваюць стромкі парадак работ, што разьвінаецца ў катлаванах. 22 ліпеня 1929 г. бэтон заваёвае пляцоўку будаўніцтва. Непарыўны струмень бэтона ідзе ў правы і левы пратокі Дняпра адначасова. Рады дэррыкаў і правых кранаў, паравозы з пляцформамі бэтона нясуць жыцьцё ў катлаваны.

Плян патрабаваў 180 тыс. кубамэтраў бэтону ў сэзон. На будаўніцтве разгортваецца сацыялістычнае спаборніцтва брыгад, вучасткаў, берагоў. Тэмпы кладкі бэтону растуць. Верасень дае 57 тыс. кубамэтраў кладкі. Днепрабуд ставіць першы сусьветны

рэкорд месячнай кладкі, бо Амэрыка дала на плаціне гідрастанцыі Конновінго 52 тыс. 300 кубамэтраў.

Зьнітоўваючы волю будаўнікоў, Днепрабуд выканаў плян бэтоніроўкі 1929 году. Калектыў будаўнікоў, узначальваемы партарганізацыяй Днепрабуду, на Сэсіі ЎсеУкраінскага ЦВК, у лістападзе 1929 г. даў ганаровае абяцаньне пабудаваць гідростанцыю і плаціну, даць ток першых агрэгатаў не да 1 сьнежня 1932 года, як вызначаў плян, а да 1 мая.

Гэта патрабавала новага ўздыму тэмпаў работ. І калектыў Днепрабуду высоўвае сустрэчны плян бэтоннай кладкі плаціны на 1930 год, з 427 тысяч кубамэтраў, вызначаных плянам—да 500 тысяч.

Сьвет ня ведаў такіх лічб. Амэрыка, якая мела вялічэзны вопыт будаўніцтва электра-гігантаў на вышэйшых дасягненьнях тэхнікі,—дала на пабудове Вільсонаўскай плаціны 380 тысяч куба-мэтраў за будаўнічы сэзон.

Так пачалася гэраічная гісторыя кладкі 518 тыс. кубамэтраў у 1930 годзе.

Бэтонныя работы на Дняпры дасягнулі нябывалага размаху. 15 сакавіка 1930 году пачалася бэтоніроўка плаціны. Дняпро б'е ўласныя рэкорды. Верасень дае замест 84 тыс. кубамэтраў—88 тыс., кастрычнік—110 тыс. кубамэтраў. Сацыялістычнае спаборніцтва стала вагаром, рухаючым наперад два берагі Дняпра. Змаганьню за бэтон,—што ўзначальвалася плянам, чоткім гаспадарчым кіраўніцтвам і высокай ініцыятывай партарганізацыі і камсамолу,—был адданы гераічныя намаганьні будаўнікоў, тысяч экскурсантаў—рабочых і калгасьнікаў.

Плян, які здаваўся для іншых вар'яцтвам, быў перавыкананы. 1-га чэрвеня 1930 году ўжо пачынаецца мантаж сьпіральных камэр для турбін гідрастанцыі. На левым беразе Дняпра пачынаецца будаўніцтва камбінатаў якаснай сталі, алюмінія, фэррасплаву—гігантаў, якія абяртаюць стэп у адзін з магутнейшых цэнтраў сацыялістычнай індустрыі. Яны будуць працаваць на электраэнэргіі Дняпра.

У 1931 годзе плаціна працягвае расьці бальшавіцкімі тэмпамі. Дняпро закоўваецца ў бэтон. Пачынаюцца работы па зачыненьні грабёнкі плаціны—найбольш адказная частка будаўніцтва. Работа вядзецца ніжэй узроўня вады, вада прасачваецца праз шандорныя шчыты, бэтон ідзе ўніз на 15-20 мэтраў. Грабёнка расьце.

Аднак, да восені плаціна прыходзіць з прарывам: набліжаецца зіма, а 70 тыс. кубамэтраў бэтона яшчэ ня ўкладзены, тады, калі да веснавой паводкі трэба зачыніць грабёнку. Першамайскі пуск турбін становіцца пад пагрозу зрыву.

Партарганізацыя абвяшчае штурм. Замест 3-х тысяч кубамэтраў бэтоннай кладкі ў сьнежні—прымаецца лічба ў 16 тыс. кубамэтраў.

На плаціне партыйна-камсамольскія сілы. У завірухі, марозы будаўнікі Днепрабуду б'юцца за бэтон. На плаціне нараджаецца лістоўка—бюлетэнь агульна-будаўнічай газэты „Пролетар Дніпробуду". Тры разы штодня яна ўручаецца людзям плаціны—паведамляе аб посьпехах, зрывах і іх вінаваўцах, даводзіць заданьні, мабілізуе на перамогу над стыхіяй.

У выніку—сьнежань дае 18 тыс. кубамэтраў, а студзень 1932 году замест 20 тыс., дае да 17 партыйнай канфэрэнцыі 22 тыс. 400 кубамэтраў бэтоннай кладкі.

Канец сакавіка. Набліжаецца павадка. Лістоўка „Пролетар Дніпрабуду" выкідвае заклік:

„Абвяшчаем сацыялістычнае спаборніцтва 3-х зьмен на лепшыя вытворчыя паказчыкі ў апошнія рашаючыя дні зачыненьня грабёнкі. Зьмене, якая дасьць лепшыя паказчыкі, будзе прадстаўлен гонар укласьці апошні кубамэтр бэтона ў грабёнку".

Фронт работ непарыўна звужаецца пад націскам ударных брыгад. 28 сакавіка выйшаў апошні, 200 нумар лістоўкі „Пролетара Дніпрабуду". Ен паведамляў аб тым, што ў 5 гадзін 20 хв. апошні кубамэтр бэтону быў укладзены".

— „Дняпро пайшоў праз суцэльны бэтонны грэбень-плаціны". Гонар укладкі апошняга кубамэтра дастаўся зьменным прарабам **Расінскаму, Зільбэрштэйн, Гаўцелаву і брыгадам Ткачэнкі, Раманько, Ільгава і Макарэнкі.**

Гіганцкім паўколам разрэзала Дняпро плаціна. Пабудаваная бальшавікамі ў тры гады, яна ўзяла 820 тыс. кубамэтраў бэтона.

З такім-жа посьпехам было праведзена будаўніцтва гідрастанцыі, складанейшы мантаж 5 найвялікшых у сьвеце гідра-электрычных турбагэнэратараў першай чаргі. Вядучыя брыгады **Шведа, Івасеяка, Федзічкіна і Рагінскага,** пад кіраўніцтвам інжынэра **Пышніцкага,** забясьпечылі падачу току ў тэрмін, узяты на сябе абавязацельствам калектыву Днепрабуду. 1-га мая 1932 году, у 6 гадз. 30 хв., агрэгат Днепрабуду магутнасьцю ў 90 тыс. конскіх сіл даў першы прамысловы ток. Днепрабуд адчыніў снабжэньне таньнейшай у сьвеце электраэнэргіяй Днепрапятроўска, Запарожжа, Кічкаса.

10 кастрычніка 1932 году, 11 гадзін. На трыбуне Днепрабуду—**Калінін, Арджанікідзе, начальнік будаўніцтва В'нтэр, сакратар парткамітэту Лейбензон, галоўны інжынэр Днепрабуду—Ведэнееў, старшыня СНК Украіны—Чубар.**

Намесьнік начальніка будаўніцтва, рабочы, член ЦК УсеКП(б) **Міхайлаў** адчыняе мітынг.

Пасівеўшы начальнік будаўніцтва—Вінтэр, кажа: „Мы чакалі гэтага дню пяць год. Перамога, тава-





рышы! Любімец першай пяцігодкі ўступае ў строй дзейнічаючых гігантаў, Днепрабуд створаны! Ен увойдзе ў гісторыю, як школа, выхаваўшая дзесяткі тысяч энтузіястаў сацыялізму“.

— „Вось гэтая плаціна дае нам 9 Волхаўбудаў— кажа тав. Арджанікідзе.—Воля і энэргія Сталіна высунулі вялікі лёзунг:—„Няма такіх крэпасьцяй, якіх бальшавікі не змаглі-б узяць“.

Зачытваецца рапарт трыкутніка Днепрабуду:— „Ток дан, Дняпро працуе на сацыялізм“.

Электрычнае сэрца Савецкай Украіны—Днепра-ДЭС імя Леніна ўступіла ў строй гігантаў першай пяцігодкі. Ад перамогі на Волхаве краіна прышла да перамогі на Дняпры.

Як Волхаўбуд быў творчым сымбалам першых крокаў сацыялістычнага будаўніцтва, так Днепра ДЭС імя Леніна, гонар першай пяцігодкі, зьяўляецца сымбалам магутнасьці і творчых сіл Савецкага Саюзу, што ўступіў у пэрыяд сацыялізму, адданасьці мільёнаў пралетарыяў і працоўных сялян генэральнай лініі партыі, заваёўваючай свае перамогі ў бязьлітасным змаганьні партыі з агэнтурай ліквідуемай клясы кулацтва—апартуністымі правай і „левай“ рукі, здраднікамі справы сацыялістычнага будаўніцтва.

Днепрабуд будавала краіна. Для яго будаўнікоў справа працы была сапраўды „справай гонару, славы і гэройства“. Дзесяткі з іх узнагароджаны ордэнамі Саюзу ССР.

Днепрабуд—вялікая школа для будаўніцтва Волатаў электраэнэргіі, якое пачынаецца на Волзе, памер работ якога больш аб'ёму работ на Дняпры ў 25 раз. Днепрабуд—складаная частка будаўніцтва гігантаў сацыялістычнай індустрыі, што знайшлі сваё ўвасабленьне ў абрысе Магнітагорска, Кузьнецкабуду.



Гісторыя Дняпра, гісторыя пераможнага ўступу краіны ў сацыялізм.

## IV.

8 кастрычніка калектыў Днепрабуду аддаў краіне рапарт лістом адказу на вядомую адозву Ленінградзкіх рабочых. У калектыўным лісьце рабочыя Днепрабуду пішуць: „У ПАЗШ—самай перадавой па тэхніцы капіталістычнай краіне—гідрастанцыя на Ніагарскім вадаспадзе мае толькі 430 тыс. конскіх сіл. Буйнейшая станцыя ў Паўночнай Амэрыцы—Тэнесская мае 620 тыс. конскіх сіл. Наша-ж Дняпроўская станцыя мае 810 тыс. конскіх сіл. ... Аднак, колькасная перавага ў конскіх сілах Дняпроўскай гідрастанцыі над Амэрыканскімі—гэта адзін толькі бок справы. ...Такая грандыёзная справа пад сілу толькі пралетарыяту і толькі пасьля таго, як,—заяўляюць у сваёй адозьве Ленінградзкія рабочыя—„Гэраічным змаганьнем кампартыі ва ўзброеным паўстаньні рабочых і салдат, у громе гарматных залпаў „Аўроры“ перамагла сацыялістычная рэвалюцыя на рацэ Няве, у горадзе Леніна“.

---

У ПАЗШ на рацэ Коларадо, у даліне „Чорнага Каньону“ ідуць работы па будаўніцтву найвялікшай у сьвеце плаціны гідрастанцыі імя прэзыдэнта ПАЗШ Гувэра. Аб'ём работ на „Гувэр-дэме“ больш за аб'ём работ на Дняпры ў чатыры разы. Вакол новага будаўніцтва быў узьняты вялічэзны „бум“. Аднак, ужо цяпер Амэрыканскі кангрэс урэзаў фінансаваньне „Гувэр-дэма“. Прычына— крызіс, які бязьлітасна выключае з дзейнічаючых электрастанцый мільярды кілёват электраэнэргіі.

Будаўніцтва пачалося са ўсеагульнай забастоўкі, якая вынікла з прычыны жорсткай эксплёатацыі рабочых, нечалавечых умоў работы.

„Гувэр-дэм“ нікому не патрэбны. Яго лёс—гэта лёс славутага „росквіту“ Амэрыкі, якога ўладарна разбурае сусьветна-эканамічны крызіс, што выкідвае на вуліцу палову рабочых сьвету, зачыняе брамы гігантаў капіталістычнай індустрыі.

Патухаюць агні капіталістычнага росквіту.

І тым ярчэй агні росквіту краіны сацыялізму, бацькаўшчыны працоўных усяго сьвету, — агні Днепра ДЭС'у.

**М. Белавор.**

**6.000 трусоў па першай пяцігодцы — лепшы падарунак да сьвята пятнаццацігодзьдзя Кастрычніцкай рэвалюцыі ад паляўнічых**

# З НОВЫМІ ПЕРАМОГАМІ ЎСТУПІМ У ДРУГУЮ ПЯЦІГОДКУ

Белкахотсаюзам складзен і зацьверджан плян трусагадоўлі на другую пяцігодку.

Вытворчы плян прадугледжвае павялічэньне грунтоўнага стада на першае студзеня 1933 году да 11.500 галоў; 1 студзеня 1934 г. — 25.000 галоў; 1 студзеня 1935 г. — 30.000 галоў; 1-га студзеня 1936 г. — 34.000 галоў і на 1 студзеня 1937 г. да 38.000 галоў.

Па пляне выхад таварнай прадукцыі павінен складаць: у 1933 г. — 31.800 тушак мяса і скурак, у 1934 г.—мяса 109.300 тушак і столькі-ж скурак, у 1935 г. — 163.000 тушак мяса і скурак, у 1936 г. — 200.000 тушак і скурак, у 1937 г. — 238.000 тушак і скурак.

Агульны лік трусагадоўчых гаспадарак па сыстэме застаецца на ўвесь час адным і тым-жа (іх 35), з агульным стадам да 1935 г. у 30.000 галоў.

Павялічэньне грунтоўнага стада ў далейшым мяркуецца праводзіць праз вытворчыя брыгады і паасобных паляўнічых на ўмовах кантрактацыі. Плянам прадугледжана палепшаньне стада трусоў па пароднасьці—шляхам набыцьця племянных трусоў і штогодняй зьмены іх у гаспадарках. Гэта мерапрыемства дасьць магчымасьць шляхам добра пастаўленай мэтызацыі палепшыць якасьць скуркі труса мясцовай пароды і павялічыць яго ўбойную вагу, рост якой з 1,1 кілё ў 1933 г. павінен дайсьці да 1,5 кілё ў 1937 г.

Плянам прадугледжваецца штогодняе зьмяншэньне адходу (падзяжа) маладняка. Гэту справу вырашыць пасьлядоўнае павялічэньне ліку новых спэцыялістаў-трусаводаў і падвышэньне кваліфікацыі ўжо маючыхся, шляхам іх перападрыхтоўкі.

У першыя гады колькасьць маладняка ад кожнай самкі павінна дасягаць 10 галоў, у 1935 г. — 11 галоў, у 1936 г. і 1937 г. — 12 галоў. Павялічэньне ліку маладняка ад кожнай самкі будзе дасягнута яшчэ і ўжываньнем новых мэтадаў утрыманьня трусоў, больш рацыянальных і танных, зьмяншаючых кошт прадукцыі: мяса і скуркі. Да гэтых мэтадаў трэба аднесьці: гарэнны, астраўны і паркетны, што ўжываюцца пакуль у БССР як вопытныя.

У 1933 г. да арганізацыі намечаных гарэн і астраўных гаспадарак—9, паркетаў 81; у 1934 г.— гарэн і астраўных—30, паркетных—261, у 1935 г. гарэн і астраўных—40, паркетаў—40. Гэтымі мэтадамі сумесна з старымі—клетачнымі і будзе ўтрымоўвацца грунтоўнае стада вытворцаў. У 1936 і 1937 г. г. рост стада будзе, як сказана вышэй, ісьці праз кантрактацыю.

Правядзеньне ў жыцьцё плянавых мерапрыемстваў патрабуе ўкладаньняў у капітальнае будаўніцтва і набыцьцё племяннога матар'ялу.

Лічбы ўкладаньняў наступныя: у 1933 г. — 258.106 руб., у 1934 г.—399.993 руб., у 1935 г. — 320.000 руб., у два апошнія гады ўкладаньні будуць спынены.

Такавы плянавыя намёткі і лічбы.

Некалькі слоў наконт новых мэтадаў утрыманьня трусоў, якія Белкахотсаюз будзе ўжываць у сваёй далейшай рабоце па разьвіцьці трусагадоўлі.

Гарэнны, групавы мэтад прадугледжвае ўтрыманьне трусоў на поўнай свабодзе ў абгароджаным месцы, на поўнай свабодзе (напрыклад, на 1,5 **га** плошчы—100 самак і 10 самцоў). У гарэне будзе самастойны корм, спэцыяльныя пасевы кармовых траў. У зімні час абавязковай зьяўляецца падкормка.

Блізкі да гэтага і мэтад астраўны, калі трусы ўтрымліваюцца ў такіх-жа ўмовах на востраве, абгароджаным вадой. Моц звычкі да месца ўтрымлівае трусоў зімой. Падкормка абавязковая. Апошні мэтад мае тыя недахопы, што патрабуе пільнай аховы трусоў ад усялякіх драпежнікаў круглы год, асабліва ўзімку.

Пры ўжываньні гэтых двух мэтадаў трусы самі капаюць сабе норкі, у якіх хаваюцца і плодзяцца. Выходзячы з норкі самкі так добра забіваюць яе зямлёю, што адшукаць яе вельмі цяжка і немагчыма для драпежніка. Маладняк, такім чынам, да моманту выхаду з гнязда добра захаван.

Паркет намечан памерам у 25×10 мэтраў, таксама абгароджан і розьніца ад гарэну толькі ў тым, што: 1) самкі пускаюцца ўжо злучаныя і для далейшай злучкі адлаўліваюцца з паркету, 2) ім не абавязкова рыць норы ў зямлі, бо для кожнай пабудавана гняздо-скрынка, якая адначасова зьяўляецца і ўбежышчам.

Маладняк з моманту ад'ёму ад маткі намячаецца гадаваць у выгулах, пабудаваных як гарэнны або паркеты, памерам 2×20 мэтраў для 50 галоў маладняка. Каля паловы матак будзе знаходзіцца ў клетках, але клеткі будуць новага вузору—не перасоўныя і на адкрытым паветры ўвесь год. Унутраныя клеткі, якія ўзімку знаходзяцца ў памяшканьні, будавацца ня будуць.

С. Б.

# ЧАС ПАДУМАЦЬ

Пачатак працы па трусагадоўлі па сыстэме Белкахотсаюзу трэба аднесьці да 1930 г., але асобную ўвагу на трусагадоўлю сталі зварочваць толькі з другой паловы 1931 году, калі пачалася арганізацыя трусагадоўчых гаспадарак пры райтаварыствах і зараз створана моцная база для разьвіцьця трусагадоўлі. На трусагадоўчых фэрмах пастаўлена стада ў ліку каля 6000 галоў матак. На 1 студзеня 1933 году яно павінна быць і будзе даведзена да 10.300 матак і 1.200 самцоў. Лік гаспадарак з адзінак узрос да 29. Шэсьць гаспадарак знаходзяцца ў стадыі арганізацыі. Трусагадоўля па нашай сыстэме мае шэраг дасягненьняў у розных галінах: вузоры клетак, мэтады замены дэфіцытных будаўнічых матар'ялаў, вопыт па гарэннаму, астраўному і паркетнаму мэтадах утрыманьня трусоў, наглядныя паказчыкі пасьпяховага вопыту мэтызацыі з падвышэньнем якасьці скуркі нашага мясцовага, беспароднага труса. Гэтыя дасягненьні, што ёсьць на мясцох, неабходна зрабіць здабыткам усёй грамадзкасьці.

Іх трэба паказаць. Трэба правесьці абмен вопытам трусагадоўлі і гэта паслужыць магутным стымулам яе далейшага разьвіцьця.

Зрабіць гэта магчыма толькі шляхам арганізацыі выставак як раённых (падрыхтоўчых), так і вялікай—Усебеларускай.

Гэта будзе і самым лепшым сродкам агітацыі за разгортваньне трусагадоўлі, ня кажучы аб практычным яе значэньні.

Апрача нашай паляўнічай каапэрацыі (якой неабходна раскачацца ў гэтым напрамку) у выстаўцы павінны будуць прыняць удзел і ўсе ўстановы і арганізацыі, маючыя трусагадоўчыя гаспадаркі, вядучыя гэту справу і зацікаўленыя ў яе разьвіцьці.

У аснову пляну арганізацыі выстаўкі мэтазгодна пакласьці напрамак, своячасова азначаны праф. М. Ільіным:

І аддзел—племянная жывёла (нашы вытворцы раней і зараз).

II аддзел—эканоміка, арганізацыя і абсталяваньне трусагадоўчых гаспадарак.

III аддзел—сыравіна, якую дае трус і яе апрацоўка.

IV аддзел—навукова-біолёгічны з пададдзеламі:

а) зоогігіена і вэтэрынарыя і б) генэтыка, сэлекцыя і мэханіка разьвіцьця.

V аддзел—падрыхтоўка кадраў для трусагадоўчай гаспадаркі.

Плян, бясспрэчна, павінен быць дэталізаван.

Плян сацыялістычнага вядзеньня гаспадаркі павінен быць пакладзены ў яго аснову. Гэта наконт усебеларускай выстаўкі.

Што-ж датычыцца да раённых выставак, то яны павінны будуць абмежавацца дэманстрацыяй нашых дасягненьняў у разьвіцьці і палепшаньні трусагадоўлі (мэтызацыі), паказам лепшых мэтадаў утрыманьня трусоў, найбольш рацыянальных, танных мэтадаў утрыманьня (клеткі, паркеты, выгулы і іншае абсталяваньне) і кармленьня (узоры лепшых і выгадных кармоў). Іх мэта наглядна адзначыць усю карыснасьць і неабходнасьць усеагульнага разьвіцьця трусагадоўлі.

Вядома, што і іншыя аддзелы пажаданы ў мэтах пашырэньня праграм выставак, аднак іх значэньне—другараднае. Раёны не заўжды справяцца з такой задачай.

Ня ў пышных дэкарацыях, паказе як самамэце павінны заключацца іх асноўныя задачы, а ў абмене вопытам і абгаварэньні лепшых, найбольш рацыянальных мэтадаў утрыманьня труса, дэманстрацыі лепшых дасягненьняў, паказе важнасьці трусагадоўлі ў справе палепшаньня рабочага забясьпечаньня і павялічэньня экспарту. Час выставак—па маёй думцы—у маі 1933 г. раённых, а ў чэрвені альбо ліпені—Усебеларускай.

Ужо час пачаць падрыхтоўку да выставак, скарыстоўваючы зімовыя (у ацпленых памяшканьнях) і раньня-вясеньнія акоты, а таксама падрыхтоўваючы і іншыя экспанаты, або мадэлі.

**Б. С.**



Паляўнічы т. Плышэўскі з забітымі глушцамі каля в. Навасельле, Барысаўскага р.

# АГУЛЬНАЯ ХВАРОБА

*(З запісак журналіста)*

## Аршанскае таварыства паляўнічых

Гадавы плян пушнамехнарыхтовак выканан да першага верасьня на 72 проц. Па-квартальна плян выканан такім чынам: I кв.—перавыканан; II—недавыканан на 24 проц; аб трэцім яшчэ ня было вестак, а IV — яшчэ будзе выконвацца. Плян пухнамехнарыхтовак гэтага году павялічан параўнаўча з мінулым годам на 122 проц. Але праўленьне т-ва ўпэўнена, што плян будзе выканан поўнасьцю.

У першым квартале пушнамехнарыхтоўкі ішлі выключна амаль за кошт пушніны (ліс, заяц і інш.). У другім квартале—амаль выключна за кошт крата. Мехсыравіна ішла толькі выпадкова.

Дзічанарыхтоўкі ў Аршанскім т-ве паляўнічых выконваюцца слаба. У гэтым годзе было заданьне нарыхтаваць дзічы 4 тоны. Колькі выканана на першае верасьня, сказаць немагчыма, бо яшчэ няма аніякіх зьвестак аб ходзе дзічанарыхтовак. Але праўленьне ўпэўнена, што дзічанарыхтоўкі будуць выкананы процантаў на 70. (?)

Паляўнічая гаспадарка па т-ву знаходзіцца ў такім стане. Есьць два заказьнікі. Заказьнікі аслупаваны і ахоўваюцца кепска. 2 вартаўнікі, вызначаныя для аховы заказьніка, аплачваюцца т-вам. Заказьнікі гэтыя ўтвораны на розную дзічыну, але добрых вынікаў пакуль што ня далі. Т-ва хадайнічае аб адстрэле ў заказьніках лісаў, якія, па думцы т-ва, шмат зьнішчаюць дзічы і за іх кошт плодзяцца самі.

Выдры, норкі, бабра, лося, дзіка, казы, мядзьведзя — наогул буйнай дзічы ў Аршанскім раёне няма. Такім чынам, паляваньне ідзе за кошт зайца, качкі, цецярука, ліса і іншых дробных аб'ектаў.

Прыпісных гаспадарак у раёне не пабудавана яшчэ ніводнай, хаця і была прапанова Белкахотсаюзу аб прыступленьні да гэтай катэгорыі будаўніцтва. Т-ва тлумачыць гэта адсутнасьцю людзей, адсутнасьцю кадраў, якія могуць заняцца гэтай справай.

Наогул справа з паляўнічай гаспадаркай у Аршанскім раёне вельмі кепская. Браканьерства ня толькі не паменшылася, але, наадварот, расьце, бо гаспадарка зусім не ахоўваецца. То там, то тут чутны галасы аб парушэньні законаў аб паляўнічай гаспадарцы, з якімі адміністрацыя і іншыя органы зусім ня лічацца. Вядома, у такім становішчы паляўнічая гаспадарка ня толькі разьвівацца ня будзе, але ня будзе і існаваць, бо выбіваецца рэшта дзічы і трэба прыступаць да яе гадоўлі, г. зн. да будаўніцтва паляўнічай гаспадаркі.

Трусагадоўляй т-ва займаецца. Пабудавана адна трусаводная гаспадарка, у якой на 1 верасьня было 150 трусоў. На 1 жніўня было 250. Больш за сотню трусоў унесена эпідэміяй за адзін месяц. У трусатніку працуюць тры сталыя працаўнікі — загадчык, трусавод і рабочы. Штат такі, што можна было-б або не дапусьціць эпідэміі, або хутка яе ліквідаваць. М ж тым больш сотні трусоў загінула ўжо на 1 верасьня. Тлумачыцца гэта тым, што штат трусатніка не на вышыні сваіх задач; з малой кваліфікацыяй.

Сабакагадоўля занепадае. Прычыны гэтаму агульныя па ўсёй сыстэме і ўсім вядомыя. У далейшым т-ва мяркуе практыкаваць кантрактацыю.

Вялікія дасягненьні т-ва мае ў мабілізацыі сродкаў. Плян у гэтым напрамку выканан поўнасьцю.

Аршанскае т-ва паляўнічых аб'ядвае больш за тысячу паляўнічых.

## Магілеўская т-ва паляўнічых

Калі Аршанскім т-вам ня зусім здавальняюча выконваюцца тыя задачы, якія зараз ускладзены на паляўнічую каапэрацыю (усіх відаў нарыхтоўкі), дык у Магілеўскім справа яшчэ горш. У адным толькі Магілеўскім т-ве дасягнула такіх вялізарных посьпехаў, што можна дзівіцца,—гэта трусагадоўля. Што-ж датычыць нарыхтовак пушнамехсыравіны, дык пляны за 1932 г. на 1 верасьня выкананы, па словах аднаго з членаў праўленьня, процантаў на 50. З нарыхтоўкамі дзічы справа яшчэ горш. Колькі нарыхтавана, сказаць цяжка і, больш таго, немагчыма.

Прычына гэтаму: вельмі нізкая колькасьць дзічы ў раёне. Нават качак, ня гледзячы на вялізарную



Старш. Язерыцкай ячэйкі паляўнічых тав. Кароль з шкурай забітага ім ваўка.

раку Дняпро, якая праразае ўвесь Магілеўскі раён папалам, у гэтым годзе было вельмі мала. Па словах аднаго члена праўленьня, на кожнага паляўнічага Магілеўскага т-ва наўрад ці прышлося па аднэй птушцы. Аб цецярукох, белых курапатках, глушцох і г. д.—гаварыць ня прыходзіцца. Буйная дзіч у Магілеўскім раёне наўрад ці ёсьць, а калі і ёсьць, дык выключна адзінкі.

Магілеўскі раён даволі абязьлесены. А такі раён, нам здаецца, павінен быць галоўным прадстаўніком зайца шэрака. Між тым і гэтага зьвярка, як нам заявілі, вельмі мала. Магілеўскае т-ва паляўнічых не займаецца разьвядзеньнем дзічыны, а ня раз афіцыйна дабівалася скарачэньня плянаў пушных загатовак для яго раёну, але заўсёды атрымлівала такі адпор, што больш ужо падымаць гэтае пытаньне не хацелася. Ніякіх работ па будаўніцтву паляўнічай гаспадаркі т-вам не вялося.



Тав. Кароль, старшыня Язерыцкай яч. з злоўленым ім ваўчанём.

## Бялыніцкі раён

*(аддзяленьне Магілеўскага т-ва паляўнічых)*

Калісьці Бялыніцкае т-ва паляўнічых было самастойнае, потым яно стала на правох аддзяленьня Магілеўскага т-ва паляўнічых. Гэта вельмі нявыгадна для паляўнічых Бялыніцкага раёну. Перш-на перш раённы цэнтр для некаторых паляўнічых зараз знаходзіцца аж за 60 вёрст. А самае галоўнае, нявыгадна з эканамічнага пункту гледжаньня.

Бялыніцкі раён яшчэ багат дзічынай. Заходняя яго частка пакрыта некранутымі, можна сказаць, лясамі.

Тут часамі сустракаюцца такія прадстаўнікі, волаты нашай фауны, як мядзьведзь, лось; з птушак—шмат важкіх глушцоў, яшчэ больш цецярукоў і пардвы.

Заяц-бяляк у гэтай частцы раёну больш сустракаецца, чым шарак, хаця і апошняга вельмі шмат. Лісаў, дзякуючы лясам, больш чым зайцоў, бо першыя жывуць за кошт другіх.

Наогул у Бялыніцкім раёне паляваньне багатае. Яшчэ багацей яно было-б, каб ня было браканьераў, драпежнікаў усіх катэгорый, як пярнатых, так і чатырохногіх, ды каб было наладжана будаўніцтва і ахова паляўнічай гаспадаркі. Але і тут ужо адчуваецца зьмяншэньне дзічыны параўнаўча з мінулымі гадамі.

Такім чынам, пры такіх кантрастах у колькасьці дзічыны, Бялыніцкім паляўнічым зусім нявыгадны „шлюб“ з паляўнічымі Магілеўшчыны.

Бялынічы могуць пляны, пры належнай пастаноўцы працы, перавыканаць. Апрача таго, у Бялыніцкім раёне можна адразу-ж прыступіць да прыпіскі паляўнічых угодзьдзяў.

---

Падводзячы вынікі тром апісаным раёнам, мы павінны прысьці да вываду, што яны ўсе тры хвараюць агульнай хваробай.

Перш-на-перш пляны ня выконваюцца. Па другое—значна зьнізілася колькасьць дзічыны параўнаўча з мінулымі гадамі, у зьвязку з чым пляны проста-на-проста становяцца „нерэальнымі“ пры

---

**Крызіс у капіталістычных краінах прызначае дзесяткі мільёнаў рабочых і сялян на голад, жабрацтва і выраджэньне. У краіне Саветаў пасьпяхова заканчваецца першая пяцігодка, ліквідавана беспрацоўе, расьце матар'яльны і культурны ўзровень працоўных. Далоў капіталізм! Няхай жыве сацыялізм!**

даных умовах. Дзічы-ж стала значна менш таму, што яшчэ і дагэтуль, асабліва зараз, пануе парушэньне паляўнічых законаў.

Скрозь і ўсюды сустракаюцца такія выпадкі, калі загатоўчыя арганізацыі скупляюць прадукты паляваньня несваячасовага адстрэлу.

Наогул, браканьерства разьвіта, і горай за ўсё тое, што гэта браканьерства вылілася за апошнія часы ў новыя формы.

Раней браканьерам быў той, хто паляваў бяз білета, а зараз проста паляўнічыя часьцяком ня лічацца з тэрмінамі паляваньня і з законамі аб паляўнічай гаспадарцы.

Па-трэцяе—няма кадраў па ахове, арганізацыі і будаўніцтву паляўнічай гаспадаркі.

Падаючы гэты, у некаторым родзе, аналіз, мы яшчэ раз робім напамінак Белкахотсаюзу — неадкладна прыступіць да падрыхтоўкі кадраў, а тады, калі такія кадры ў нас будуць, зараз-жа пачаць ажыцьцяўляць будаўніцтва паляўнічай гаспадаркі не на паперы, а на справе.

Пакуль-жа будзе адбывацца падрыхтоўка кадраў, неабходна ўзмацніць ахову багацьцяў нашых лясоў і палёў.

**Пушнік!**

# Аб значэньні экспартнай пушніны і мехсыравіны

Значэньне пушніны і мехсыравіны ў нашым экспарце вялізарнае.

Па-першае, за кошт экспарту гэтага віду сыравіны, якая зьяўляецца для нас на даным этапе прадметам ня першай неабходнасьці, мы можам скараціць экспарт тых відаў сыравіны, якія для нас больш неабходны.

Па-другое, наша мехавая прамысловасьць, у якой занята ў сучасны момант 16.000 рабочых, дасягнула такіх вялізарных посьпехаў у выпрацоўцы, афарбоўцы, шчыпцы і стрыжцы пушмехсыравіны, што якасьць яе апрацоўкі вышэй якасьці на фабрыках усіх капіталістычных краін Эўропы і Амэрыкі. Дзякуючы чаму мы большую частку пушніны, у прыватнасьці — мехсыравіны перапрацоўваем на нашых фабрыках і экспартуем у пераапрацаваным выглядзе. Зразумела, што за ўсе працэсы работы і патрачаны матар'ял мы бярэм ад замежных пакупнікоў залатую валюту. Таму кожны сьвядомы паляўнічы, выходзячы на паляваньне, павінен памятаць, што ён ідзе не на прагулку для прыемнага правядзеньня часу, а вырашае сур'ёзьнейшае пытаньне — пытаньне экспарту.



У інтарэсах самога паляўнічага і нашай дзяржавы кожны паляўнічы павінен з усёй сур'ёзнасьцю аднесьціся да скуркі здабываемага зьвера.

Поўную каштоўнасьць скуры паляўнічы можа атрымаць толькі пры ўмове, калі скурка правільна зьнята з тушы

---

**Савецкай каапэрацыі — бальшавіцкія кадры. Работнікі прылаўку! Станавецеся ў рады ўдарнікаў сацыялістычнай працы! Паставім на вучасткі савецкага гандлю лепшых работнікаў!**

зьвера, добра ачышчана ад мяса і тлустасьці, добра распраўлена і своячасова высушана.

З 1-га верасьня бягучага году цэны на пушніну павышаны на 50 і больш процантаў і кожны малейшы дэфэкт на скурцы, які атрымоўваецца дзякуючы няправільнай, неахайнай рабоце паляўнічага, б'е па кішэні паляўнічага і падрывае выкананьне экспартнага пляну.

Таму асаблівую ўвагу неабходна зьвярнуць на якасьць першапачатковай апрацоўкі скуры кожнага віду ера.

Кожны прыёмшчык пушніны ўсіх загатоўчых сыстэм абавязаны растлумачыць паляўнічаму, як трэба зьнімаць, выпраўляць, высушваць кансэрвіраваць скуру ўсіх відаў зьвяроў і кожнай жывёлы.

**Дзяржінспэктар упаўн. Наркамзамежгандлю ЭЛІНСОН.**



Паляўнічы Езерыцкай яч. паляўнічых т. Сіняк з забітымі глушцамі.

# 10-ыя палявыя спробы лягавых сабак
## Віцебскага таварыства паляўнічых

Практыка арганізацыі палявых спроб паляўнічых сабак набывае з кожным годам усё большае значэньне ў справе заводзкай сабакагадоўлі.

Праз выстаўкі ўтвараецца адбор лепшага па свайму складу вытворца, які больш набліжаецца да запатрабаваньняў стандарта. Аднак выставачны вытворца яшчэ ні ў якім разе не гарантуе здольнага для працы ў полі патомства. Тут дапамагаюць палявыя спробы.

Віцебскае т-ва паляўнічых штогод практыкуе палявыя спробы лягавых і гончых сабак. У бягучым годзе віцебскія паляўнічыя праводзілі 10-ыя па падліку палявыя спробы лягавых. Месцам спроб быў вызначан Буцяжскі мох на адлегласьці 16 кілёмэтраў ад г. Віцебску. На спробы была выстаўлена 7 сабак, з іх—4 ангельскіх сэтэра і 3 ангельскіх пойнтэра.

Месца, вызначанае для спроб, ня зусім адпавядала спробам у сэнсе паяўнасьці дзічы. Тым ня менш палявыя спробы прайшлі здавальняюча.

З 7-мі сабак вышла палявым' пераможцамі шэсьць і толькі адна сабака — ангельскі пойнтэр засталася нерасцэненай з прычыны таго, што была выстаўлена зусім непадрыхтаванай. Першым пераможцам выйшаў ангельскі сэтэр **„Марс“ Васільева А.** Астатнія сабакі выйшлі ў наступным парадку: **„Леди“, Васільева К**, — ангельскі сэтэр, сука; **„Трэф“, Ліаранцэвіч С.** — ангельскі сэтэр, кабель; **„Флер“—К. М.**—ангельскі пойнтэр, кабель; **„Дона“—Ліаранцэвіча**, ангельскі сэтэр, сука і **„Дзіва“—Хрыстараждзесьцьвенскага**, — ангельскі пойнтэр, сука.

Супроць мінулых гадоў колькасьць выстаўленых на спробы сабак значна зьменшылася. Прычынай у тым, што вызначаны ў першы раз час для спроб двойчы быў перанесены.

6-га кастрычніка павінны былі адбыцца палявыя спробы гончых.

**Кошка М.**

---

**Разгортваньнем загатовак, стварэньнем уласных харчовых баз, арганізацыяй прыгарадных гаспадарак пры заводах, шахтах і фабрыках даб'ёмся далейшага палепшаньня рабочага снабжэньня!**

# „Пасьля лета—на маліны“

Аб пачатку паляваньня на лісаў і зайцоў з 15 кастрычніка г. г. праўленьне Рагачоўскага саюзу паляўнічых аб'явіла 4 кастрычніка ў райгазэце „Камунар“. Здаецца сваячасова і загадзя, але-ж на 4 дні пазьней пачатку фактычнага паляваньня... Як гэта здарылася—неўдамёк ня толькі сябрам праўленьня, але нават... і паважаным іх ганчакам і выжлам.

Кажуць аб гэтым па рознаму. Хто спасылаецца на „усязнайку“ паляўнічага, які штодзенна па некалькі разоў наведвае краму паляўнічых і даў вінаватаму „аўтарытэтнае“ тлумачэньне наконт тэрмінаў, хто кажа, што я яму дазволіў яго ганчак і так бясконца.

Вінаватыя маюць слушнасьць,—у адносінах да тэрмінаў паляваньня на дзічыну ў нас няма ніякай сыстэмы. У паляўнічых білетах паказаны адзін тэрмін. Менск кожны год яго мяняе, у дадатак несвоечасова абвяшчаючы яго па раёнах, бяз усякіх падстаў. У паляўнічых няма ніякай упэўненасьці, што вызначаны тэрмін не парушыцца і кожны напоўнен імкненьнем не спазьніцца, баіцца, каб хто іншы ня вышаў на паляваньне першым,—асабліва ў загадзя аблюбаванае ім месца.

Інтарэсы дабрабыту паляўнічай гаспадаркі для яго ня існуюць.

У мэтах папярэджаньня гэткіх зьявішч, якія шкодна адбіваюцца на становішчы нашай паляўнічай гаспадаркі, неабходна вызначаць у паляўнічых білетах на кожную дзіч адзін сталы тэрмін паляваньня з абавязкам штогодна яго прытрымлівацца. Калі-ж тэрмін мэтазгодна зьмяніць, гэта неабходна адзначыць з папярэджаньнем, што калі за тыдзень да паказанага ў білеце тэрміну паляваньня на тую ці іншую дзічыну ня будзе абвяшчэньня аб яго зьмяненьні, кожны паляўнічы мае права пачынаць паляваньне ў лічбіну, паказаную ў білеце,—раньнем і ні ў якім разе напярэдадні.

Тады сярод паляўнічых зьнішчыцца „спаборніцтва“ у парушэньні тэрмінаў паляваньня.

Я.

# Шрот выдаецца няправільна

*(Ліст з Брагіна)*

У жніўні месяцы бягучага году Брагінская крама таварыства паляўнічых прадавала шрот толькі тым паляўнічым, што працавалі на ўборцы аўса і вікі для кральчатніка.

Аднак, быў выпадак, калі ў краму зайшоў старшыня праўленьня таварыства Краўчанка з трыма невядомымі людзьмі, на кральчатніку ніколі не працаваўшымі, якім загадаў выдаць шрот.

На пратэст загадчыка крамы Сідарэнкі, ён адказаў, што паляўнічыя, працаваўшыя на кральчатніку „пачакаюць“—і ўвесь запас шроту (2 з чымсьці кілё) быў адданы.

Такія „фокусы“ з боку кіруючых работнікаў таварыства толькі падрываюць яго работу.

Шылец.

---

**На аснове мэтадаў сацыялістычнага спаборніцтва, рэалізацыі шасьці ўмоў т. Сталіна—перавыканаем плян пушнамеХавых загатовак 4-га кварталу.**

**Навярстаем прарыў мінулага кварталу падвоеным тэмпам загатовак!**

# ШАШОК І ЯГО ЗДАБЫЧА

### I. Эканамічнае значэньне

На тэрыторыі СССР плодзіцца тры віды шашкоў: лясны, або звычайны шашок (па пушной тэрміналёгіі чорны або цёмны шашок), сьцяпны або Эвэрсманаў шашок (белы шашок па пушной тэрміналёгіі) і перавязка або шашок перавозчык (перагрузка).

Плошча распаўсюджаньня ляснога шашка даволі абмежавана і значна менш плошчы распаўсюджаньня сьцяпнога шашка.

Па даных Юргенсона на гэтай плошчы ў даваенны час (за 5 даваенных год) здабывалася ў сярэднім каля 150 тыс. скурак у год, на суму 375 тыс. руб. У пэрыяд 1921-25 г. г. здабыча або, праўдзівей, выхад чорнага шашка быў у сярэднім 149 тыс. 700 скурак на суму 374 тыс. 200 руб., што складала 1,3 проц. усяго выхаду пушніны ў СССР (13 месца па значэньні сярод другіх відаў пушніны).

У 1924-25 г. г. было нарыхтавана 177 тыс. 844 скуркі на суму 373 тыс. 96 руб., у 1925-26 г. г.—258 тыс. 850 скурак на суму 557 тыс. 825 руб., у 1926-27 г. г.—725 тыс. 103 скуркі на суму 828 тыс. 154 руб., у 1927-28 г. г.—455 тыс. 468 скурак на суму 1 млн. 357 тыс. 925 руб., у 1928-29 г. г.—471 тыс. 380 скурак на суму 1 млн. 120 тыс. 56 руб.

Раёнамі, што дастаўляюць найбольшую колькасьць скурак ляснога шашка, зьяўляюцца: Маскоўская і Іванаўская вобласьці, БССР, Заходняя вобласьць, УССР і Ленінградзкая вобласьць.

За пэрыяд з 1921—25 г. г. найбольшае значэньне па здабычы ляснога шашка ў радзе другіх пушных відаў мелі Цэнтральна - прамысловая вобласьць (Маскоўская і Іванаўская)—39,7 проц. і Заходняя вобласьць—26,7 проц. Да вайны здабыча ляснога шашка на тэрыторыі СССР складала некалькі болей 50 проц. сусьветнай здабычы ляснога шашка.

У апошнія гады значэньне Саюзу ў сусьветнай здабычы ўзрасло.

Няма сумленьня, што і да вайны і пасьля яе шашок меў уцечку, мінуючы наш пушны рынак, а за гэтым і ўсе лічбовыя даныя аб шашку трэба лічыць ніжэй яго сапраўднай здабычы.

Лясны шашок, калі і займае 13 месца сярод другіх відаў пушніны ў СССР і ня можа аспарваць першага месца сярод пушных зьвяркоў Беларусі па каштоўнасьці свайго меха, то займае адно з першых месц па колькасьці скурак, што паступаюць на беларускі пушны рынак.

Шашок—падсобны заробак ня толькі для паўпрамыславіка-паляўнічага, але і для ўсякага жыхара вёскі і нават гораду, ня толькі дарослага, але і ўсякага падлетка, які толькі зможа зрабіць уласнымі сродкамі тую ці іншую пастку.

Шашок—залатая валюта. На аукцыёнах савецкай пушніны ў 1928 г. у Германіі расійскі чорны шашок расцэньваўся ад 3 да 6 амэрыканскіх даляраў за скурку. У сучасны момант скурка нямецкіх шашкоў расцэньваецца ў 8—10 германскіх марак. Такім чынам лясны або чорны шашок зьяўляецца каштоўным пушным зьвярком (ён каштуе значна вышэй белага або сьцяпнога шашка). Таму, лясны шашок патрабуе беражных адносін і правільнага гаспадараньня.

Даваенная здабыча сьцяпнога або белага шашка азначаецца ў сярэднім 900 тыс. скурак на суму 1 млн. руб.

Значэньне сьцяпнога шашка, як пушнога зьвярка, вельмі вялікае. Займаючы 7 месца сярод другіх здабываемых у СССР відаў зьвяркоў, ён зьяўляецца манапольным відам Саюзу, бо за межамі свайго распаўсюджаньня амаль нідзе не здабываецца.

На аукцыёнах савецкай пушніны 1928 г. у Германіі скуркі белага шашка расцэньваліся ад 2 да 4,75 амэрыканскіх даляраў. Попыт на белага шашка ня спыняецца нават пры наяўнасьці імкненьня капіталістычнага пушнога рынку абмежаваць імпарт савецкай пушніны.

Здабыча сьцяпнога шашка зьяўляецца месцамі больш спэцыялізаванымі значным промыслам, чым здабыча ляснога шашка. Але ўсё-ж яна нідзе ня служыць для асоб яе прамышляючых сродкам для існаваньня. Прамышляюць сьцяпнога шашка ў адзінку і арцелямі, якія выяжджаюць у стэп спачатку на промысел сусьліка, а затым пераходзяць на шашка. Стэпавы шашок значна пераважае ляснога шашка па здабычы. Так, у 1928-29 г. г. здабыча чорнага шашка была, як ужо было сказана, 411 тыс. 380 скурак на суму 1 млн. 120 тыс. руб., стэпавага шашка—здабыта за гэты час 1 млн. 181 тыс. скурак на суму 2 млн. 503 тыс. 726 руб. Колькасная перавага стэпавага шашка залежыць ад двух фактараў: 1) ад тэрыторыі распаўсюджаньня і 2) ад прыплоду. Таму стэпавы шашок ня можа заняць першае месца перад лясным шашком ня толькі пры роўных суадносінах тэрыторыі распаўсюджаньня, але і па пладлівасьці.

Эканамічнае значэньне шашка-перавязкі вельмі невялікае. У 1927—28 г.г. на тэрыторыі РСФСР было нарыхтавана 1 тыс. 742 скуркі на суму 756 руб., у 1928—29 г.г. там-жа—1 тыс. 264 скурак на суму 601 руб., 1 тыс. 735 скурак было нарыхтавана ў 1927—28 г. у Кіргіскай АССР. Сусьветная здабыча перавязкі адзначаецца прыблізна ў 3—4 тыс. скурак. Зьвярок гэты вельмі нязначны колькасна і тэрыторыя яго распаўсюджаньня вельмі невялікая. Усё гэта кажа за тое, што перавязку мы павінны шкадаваць, а калі і здабываць, то з вялікім разьлікам.

## II. Геаграфічнае распаўсюджаньне, корм, шкода і карысьць, месца распаўсюджаньня і жыцьцё, ворагі, хваробы і множаньне шашка.

Шашок мае тры віды, як гэта ўжо было сказана, і жыве па ўсёй умеранай паласе Эўропы і Азіі, а таксама сустракаецца і ў халодным паясе.

Першы від шашка—лясны шашок жыве выключна ў сярэдняй паласе Эўрапейскай часткі нашага Саюзу, ад заходняй мяжы да Уралу і ад паўднёвай мяжы Карэліі і Паўночнага краю да стэпавай паласы.

Межы распаўсюджаньня другога віду—стэпавага шашка—правесьці цяжка. Зьвярок гэты то зацягвае вялікую пятлю, то ідзе па межах распаўсюджаньня лясного шашка. Тое-ж можна сказаць і аб лясным шашку. Такім чынам, два гэтых віды пераплятаюцца межамі свайго распаўсюджаньня, гэта значыць жывуць сумесна.

Трэці від—шашок-перавязка—сустракаецца ў некаторых раёнах Украіны (Арцёмаўск, Луганск, Марыупаль і г. д.). Таму нас больш за ўсё цікавіць шашок наш, лясны. Шашкі ў нас лічацца выключна шкоднымі. Гэта зусім ня так. Поруч са зьнішчэньнем птушак і другіх карысных жывёл, ён шмат зьнішчае і шкодных, як мышы, гадзюкі, вужы і інш. Шашок кідаецца і паядае амаль усякую жывёлу, якую ён можа здужаць. Іншы раз у яго ў страўніку знаходзілі і рэшту расьліннага корму. Аднак, яна, мабыць, трапіла туды са зьедзенай жывёлай, у яе кішках. Увогуле шашка нельга лічыць абсалютна шкодным і трэба ўзяць пад ахову паляўнічага законадаўства.

Месцазнаходжаньне шашка—кучы камняў, хварасьціньне, у дрывох, пад пабудовамі, але ўсё-ж ён лічыцца жыхаром нары, бо яна зьяўляецца яго першым прытулкам, якую ён сам ня робіць, а адбірае ў хамякоў і г. д., папярэдне расправіўшыся з імі.

Множыцца шашок у раньнюю весну. Выводзіць дзесяць і больш дзяцей, якіх бацькі доўгі час водзяць за сабою. Велічыня і афарбоўка лясного шашка большасьці насельніцтва вядомы, хоць гэтыя яго якасьці і зьмяняюцца ад полавых асаблівасьцяй, ад узросту, ад часу году і ад месца жыцьця.

Пасьпявае мех шашка толькі прыблізна к 1 кастрычніка. Шашок, зьвер моцны не па разьмеру цела, самаадданы і злосны. Былі выпадкі нападу параненага шашка на чалавека.

Рэдка, калі шашок ідзе роўным крокам; звычайна бегае ён скачкамі (кавыляючы). Пры ціхіх, спакойных скачкох сьпіна выгнута вярблюжым гарбом, пры хуткіх скачкох—выцягваецца. Пры скачкох мы бачым парныя адбіткі лап, раскладзеныя некалькі наўкось адна за другой. Іншы раз наперадзе бывае правая, іншы—левая лапа, пры зьмене-ж ног атрымліваецца адначасовы адбітак трох лап. Часта шашок „троіць“, мяняе лапы, пры чым ствараюцца розныя камбінацыі адбіткаў. Пры хуткім безе ствараюцца групы з адбіткаў усіх чатырох лап, пры чым колькі вечы пярэднія лапы (на самым хуткім ходзе) шашок ставіць болей цесна, чым заднія і апошнія іх апераджаюць. Іншы раз сьлед шашка раскладаецца як у зайца, а бывае ідзе снурком. Апошняе бывае рэдка, бо шашок пераважна скача.

Сьлед шашка ад сьлядоў дробных зьвяркоў значна адрозьніваецца. Ад норкі, прыкладна, адрозьніваецца меншай шырынёй, больш доўгімі рэзка адбітымі кіпцямі, і выразна адрозьненымі бугаркамі на падэшвах лап. Ад сьледу куніцы сьлед шашка адрозьніваецца меншымі памерамі, меншай працяжнасьцю скачка і больш акрэсьленым адбіткам лапы Лапы шашка працягнутыя, кіпці па малюнку свайму падыходзяць пад кіпці барсука, нават мядзьведзя. Пры скачкох па дрыўлянай падлозе даволі моцна стучыць кіпцямі.

Улетку выкрыць сьлед шашка можна толькі або на вільготнай глебе, высахшай лужы, або каля вадаёмаў; добра разьлічальныя сьцежкі бываюць толькі блізка саміх нор, кочак. Знайсьці лаз, улюблёны пераход шашка або яго сьцежку сярод зарасьляй, кочак і бур'яну, можа толькі вопытны паляўнічы за шашкамі. Адзнакай праходжаньня шашка можа служыць астача якога-небудзь корму, як лягушкі, мышы, клачка шэрсьці і г. д. Паляўнічы раён шашка невялікі. Цікава адзначыць, што па інстынкту самаахловы шашок мае агульныя рысы з ваўком; як воўк ніколі не зачэпіць жывёлу бліжэйшай вёскі да яго логава, дзе жыве вывадак, так і шашок ніколі не нападае на хатнюю птушку ў тым доме, дзе жыве, а заўсёды на баку, па суседзтву.

### III. Здабыча са стрэльбай і сабакам

Звычайна лічаць, што шашкі здабываюцца выключна пасткамі. На самай справе па меншай меры палова, калі ня большая частка колькасьці скурак, што паступаюць у нашы нарыхтоўчыя арганізацыі, здабываюцца са стрэльбай і сабакамі. Здабываюць шашкоў са стрэльбай і сабакам выключна жыхары вёсак, чаму здабыча гэта мала вядома.

Здабыча шашка не пазбаўлена цікавасьці, чаму яе са стрэльбай і сабакам можна аднесьці да паляваньня. Паляваньне гэта не патрабуе вялікіх трат і заўжды прыносіць добры прыбытак, бясспрэчна, калі займацца ім з уменьнем і мець добрых сабак, прывучаных да паляваньня на шашка.

Для паляваньня патрабуецца адзін, яшчэ лепш, два добра прывучаныя сабакі. Больш двух не патрэбна ні ў якім разе. Будуць толькі перашкаджаць і зьнізяць здабычу. Звычайна ўжываюць простых дваровых сабак, аднак, лепш помесь сабакі дваровага з буйнай выжлай.

Ня кепскія сабакі выходзяць і ад помесі выжлы з ганчаком. У гэтым я пераканаўся яшчэ ў маладых сваіх гадох, калі толькі пачынаў паляваць наогул.



Некаторыя паляўнічыя спрабавалі здабываць шашка з таксамі (ямікамі), але яны вельмі малы ростам, а ў моцныя асеньнія халады зябнуць у вадзе і амаль зусім не прыстасаваны да паляваньня. Апрача таго, ямікі не аказваюць да гэтай дабычы такога імкненьня, якое маюць к здабычы барсукоў і лісіц.

У Шатляндыі, як кажуць, існуе асобная парода тэррыераў, выкарыстоўваемая для паляваньня на выдр, мяркуючы, што гэтыя сабакі былі-б вельмі добры і ў нас на норак і шашкоў. Да таго-ж яны пакрыты доўгай і цёплай поўсьцю і ростам значна буйней нашых ямікаў. Але гэтых сабак у нас няма, а калі і можна іх выпісаць, то гэта змогуць зрабіць толькі нашы прамыслова-паляўнічыя каапэрацыі.

Нашым паляўнічым прыходзіцца здабываць шашка ў большасьці з дваровымі сабакамі, надзвычайна моцнымі і здавальняемымі самым неразборлівым харчаваньнем.

Наша дварняжка, жывёла вельмі кемлівая і ў радзе выпадкаў мае пачуцьцё, якое ня ўступіць ніякаму сэтэру, або пойнтэру. Сабака, палюючы на шашкоў, не патрабуе асабліва вялікай дрэсыроўкі, адно тое, што ад яго патрабуецца—каб ён на паляваньні ня ўходзіў занадта далёка ад паляўнічага, а быў у яго на віду. На покліч паляўнічага ён павінен зьяўляцца зараз-жа і абнюхваць старанна тое месца, якое ён яму пакажа. Ужо ў шчанячым узросьце сабаку пачынаюць нацкоўваць на кошак і прыахвочваюць рыцца за пацукамі і мышамі. Ад гэтай гульні амаль усякі сабака хутка адвыкне, калі пачнецца сапраўднае паляваньне на шашка. Добрага сабаку паляўнічы ўзнае яшчэ шчанём. Ён горача цкуе кожную папаўшуюся кошку, а калі тая пападзе—абавязкова яе задушыць.

За пацукамі і мышамі ён палюе ня менш горача і праводзіць доўгі час у здабываньні іх з нор. Вады такі сабака не баіцца і цкуе зьвера, калі спатрэбіцца, уплаўкі. Калі настане час сапраўднага паляваньня, шашка стараюцца знайсьці ў якім-небудзь лёгка даступным месцы, прыкладна ў невялікай кучцы хварасьцяньня, або камней, дзе шашкі вельмі часта жывуць падоўгу і, разрыўшы кучу, даюць сабаку яго злавіць. Або яшчэ лепш. Злавіць шашка ў пастку, якая ня цісьне зьвярка, і пусьціць яго сабаку ў такім месцы, дзе-б ён ня змог ад яго ўцячы. З сабакам, які возьме сьмела і ня кіне зьвярка, калі той яго ўкусіць і застракоча, а хутка загрызе, можна сьмела ісьці на здабычу і быць упэўненым ва ўдачы, толькі-б быў шашок. Кепскім сабакам трэба лічыць такога, які, прыкладна, ідзе добра, але баіцца і не бярэ зьвярка або, што яшчэ горш, гультаяваты і ня хоча рыцца.

Як ужо было сказана, для паляваньня на шашкоў удаюцца добрыя сабакі з ублюдкаў буйных выжлаў, але ў гэтых сабак бывае вельмі часта вялікі недахоп. Яны робяць па зьвярку стойку і гэтым даюць яму час уцячы.

Горш за ўсё, калі сабака, дарыўшыся амаль да самага шашка, раптам прыходзіць у такі азарт, што не адважваецца далей рыцца, а толькі брэша, ды круціцца вакол нары. У гэты час шашок часта пасьпявае ўцячы ў якую-небудзь шчыліну і зьнікае няпрыкмечаны ні паляўнічым, ні сабакам. Добры сабака павінен брахаць толькі ў тым выпадку, калі шашок узьлязае на дрэва або забярэцца ў такое месца, дзе без дапамогі паляўнічага ён ня можа яго здабыць. Апрача звычайных сабак, якія палююць за шашкамі, ёсьць яшчэ сорт сабак, якія прамыслоўцамі цэняцца вельмі высока. Гэта так званыя галасавыя сабакі. Такі сабака на паляваньні адыходзіць ад паляўнічага на вялікую адлегласьць і знайшоўшы зьвярка ў нары, брэша над ім да тэй пары, пакуль ня прыйдзе паляўнічы і толькі тады ўжо пачынае капацца і перастае брахаць. Калі сабака нападае на сьвежы сьлед, то гоніць голасам як ганчак і, загнаўшы зьвярка ў нару або на дрэва, кліча паляўнічага гулкім брэхам. Але такія сабакі вельмі рэдкія.

Вельмі зручна для паляваньня, калі сабака буйнага росту і моцны. Гэта пазбаўляе паляўнічага ад працы самому разрываць норы зьвяркоў, таму што моцны сабака спраўляецца з гэтай справай сам і патрабуе дапамогі толькі пры сустрэчы з тоўстымі карэньнямі, якія паляўнічы лёгка перарубае маленькім тапаром, узятым на паляваньне.

Стрэльбы для паляваньня на шашкоў неабходны самыя дробнакаліберныя і кароткія на той аснове, што набой у іх кладзецца маленькі і таму з такой стрэльбы менш псуецца скурка зьвярка. Страляць прыходзіцца, за малым выключэньнем, не далей 15 або 20 крокаў і добрыя паляўнічыя б'юць хоць і шротам, але заўжды ў галаву. З кароткаі стрэльбай зручней абыходзіцца ў густым кустарніку, у якім звычайна прыходзіцца страляць. Самая неабходная зброя пасьля стрэльбы—гэта невялікі кароткі тапорык, без якога ніводзін паляўнічы ня выйдзе на паляваньне на шашка. Носяць яго звычайна, як і ўсялякі тапор, за паясом. На паляваньні ён ужываецца для перарубаньня карэньняў, якія перашкаджаюць сабаку пры раскапваньні нор, асабліва калі норы будуць між берагавых, размытых вадою карэньняў. Гэтыя месцы шашок пераважае другім, калі ён жыве каля вадазбораў. Апрача таго, калі ў раскапваемай нары ёсьць прыкметны для паляўнічага выхад, то абухом тапара трэба забіваць зьвярка ў хвіліну, як толькі ён пакажа галаву з свабоднага ад сабак выхаду.

Шашок вельмі моцна трымаецца ў сваёй нары і выгнаць яго адтуль надзвычайна цяжка; звычайна сабакі дарываюцца да самага шашка і загрызаюць яго ў нары. Прыціснуты сабакам у такім месцы, дзе яму ўжо няма дзе схавацца, ён адважна абараняецца і з злосным крыкам, схожым да стракатаньня сарокі, кідаецца вялікім скачком на сабаку і звычайна кусаецца. Даведзены да крайнасьці шашок

кідаецца нават на чалавека. Калі сабака знаходзіць шашка каля вады і выганіць яго з нары, ён звычайна выскаквае на бераг і імкнецца ўцячы сухім шляхам. Пры абароне ён выпрысквае злавонную вадкасьць. Скача шашок ня хутка і чалавек зможа заўсёды дагнаць яго, калі, зразумела, месца чыстае, бяз дрывесных і травяністых зарасьляй.

Паляваньне пачынаецца з паловы верасьня (па ст. стылю) і працягваецца да той пары, пакуль выпадзе глыбокі сьнег або наступяць моцныя маразы і закуюць зямлю так, што капацца немагчыма. Лепшае паляваньне па першаму сьняжку, калі замерзьлі і рэкі, і балоты. Сьлед зьвярка як друкаваны і зьвярок дайшоў сваёй шубкай, інакш кажучы, поўнакаштоўны. У верасьні зьвярок яшчэ ня зусім выкуняў (зьмяніў летнюю поўсьць на зімнюю, выліняў), а значыць, няпоўнакаштоўны.

Нармальным тэрмінам пачатку здабычы шашка трэба лічыць палову кастрычніка. Шашок канчаткова выліньвае да гэтага часу і гэтым узнагароджвае паляўнічага за яго ўстрыманьне.

Тэхніка паляваньня за шашком нескладаная. Тут не патрабуецца ні высьледжваць лазу зьвярка, ні азначаць яго ходы, ні лежкі. Паляваньне гэта хутчэй падыходзіць пад характар паляваньня па пяру, чым па зьверу. Паляўнічы раніцай, з сабакамі, стрэльбай і тапаром за поясам, накіроўваецца да якой-небудзь рэчкі і не сьпяшаючыся ідзе берагам. Сабакі, пераходзячы то на адзін, то на другі бераг, абнюхваюць кусты і берагі. Дзе ўздоўж самой вады ёсьць вадкая гразь, паляўнічы спыняецца і старанна яе аглядае: ці няма на ёй сьледу шашка.

Паляўнічы перайшоў на вырубкі. Ён ідзе не павялічваючы крок, часта застанаўліваецца, дае сабакам час абшукаць добрыя месцы. Але вось сабакі асабліва горача зашукалі і застанавіліся каля пня з вялікімі, моцнымі карэньнямі. Яны суюць пад карэньні свае пысы, нюхаюць і, раптам, завіляўшы хвастамі, пачынаюць азартна брахаць і парыўчата рыцца. Шашок знойдзены. Паляўнічы, вырубіўшы тонкую палку, і адагнаўшы сабак, пачынае саваць яе пад пень, у месца, дзе сабакі пачалі рыцца. Норы бываюць няглыбокія, там чуецца стракатаньне шашка і рукі адчуваюць, як зьвярок злосна хапае і грызе палку. Калі шашок знойдзены ў кучы каменьня, то паляўнічы яе разьбірае па кірунку, які ўказваюць сабакі, і сабакі выганяюць шашка, або паляўнічы забівае яго ў самой кучы, што бывае часьцей, бо шашок ня любіць кідаць свайго прытулку і трымаецца да апошняй крайнасьці. Шашок нялёгка дастаецца, яго часта знаходзяць у такой вялікай кучы каменьня, што яе ня стоіць нават і рыць.

Часта ратуецца шашок у навіслых берагоў, з вялікімі, частымі карэньнямі пнёў або дрэваў, падмытых вадою, тых або іншых вадазбораў. Але наогул надзвычайна рэдка даводзіцца ратаваць шашку, калі ён знойдзены сабакам.

Стральба шашкоў, сама па сабе здавалася-б ня цяжкая,—патрабуе вялікага навыку і зыркасьці вачэй. Трэба схапіць момант, калі зьвярок шмыгане між кустоў, пнёў або хварасьціньня, зьліваючыся з чорным колерам усяго гэтага ўкрыцьця (асабліва калі няма сьнегу). Страляюць шашка ў галаву, каб не псаваць скурку, пры чым у радзе выпадкаў патрабуецца мгненны прыцэл, калі зьвярок толькі што пакажа галаву. На блізкай адлегласьці набой шратавіка ідзе куляй, таму папасьці ў зьвярка нязвыкламу паляўнічаму цяжка, асабліва ў галаву.

Таксама патрэбна быць вельмі зыркім, каб у кустах і хварасьціньні своечасова дагледзець шашка і не прапусьціць спрыяючай для стрэлу хвіліны. Шрот для паляваньня ўжываецца самы буйны, № 1, а нават і № 0. Параўнаўча з зарадам пораху, шроту кладзецца вельмі мала; прамыслоўцы кажуць, што малым зарадам шроту менш псуецца скурка. Бясспрэчна, гэта так, але не заўжды прыходзіцца страляць вельмі блізка. Скрозь і радам зьвярок пападае пад стрэл на адлегласьці крокаў пяцьдзесят, на якой поўны зарад непараўнальна надзейны. Рэкамендуецца мець два розных зарады, калі ў вас двухрулевая стрэльба.

### IV. Прынада

У якасьці прынады для шашка ўжываюць птушак, зайцоў, з вялікім посьпехам і рыбу. Самай лепшай прынадай лічыцца цецярук, курыца, заяц.

Там, дзе шмат мышэй, або шашок свабодна і лёгка дастае сабе курanят, спакусіць яго якой-небудзь ласай прыманкай нельга. Яго нікольki ня вабіць мёртвая птушка, або заяц, калі ён мае ў дастатковай колькасьці сьвежую жывую птушку. Шашкоў трэба вадзіць ня там, дзе яны пражываюць, а там, дзе іх сьляды пападаюцца толькі зрэдку, дзе яны ня жывуць. Шашкі жывуць там, дзе ёсьць дастаткова харчы, як ужо было сказана, і таму шашок, знайшоўшы прынаду не ў багатым кормам месцы—не абыйдзе яе і пачынае хадзіць да яе.

Выраз „класьці прынаду“ ня мала зьбівае пачынаючага паляўнічага. Выраз гэты ён разумее ў прамым сэнсе і на самой справе кладзе прынаду пакуль вопыт не навучыць яго прывязваць, а потым і вешаць, як робяць усе вопытныя прамысловікі. Калі прынаду для шашка проста класьці, ён звычайна ўцягвае яе і хавае так, што паляўнічы ня можа яе знайсьці, а калі пакладзе на старое месца другую, то яна (прынада) доўга застанецца нечапанай, пакуль не вернецца другі шашок, які ў сваю чаргу ўвалачэ і гэту. Адным словам, класьці прынаду няпрывязанай зусім непрактычна: такім спосабам паляўнічы толькі корміць галоднага шашка.

Класьці прынаду і прывязваць яе таксама ня зусім зручна; маладыя шашкі такую прынаду ня ўцягнуць, але старыя перагрызаюць перавязку (калі яна ня з дроту) і ўсё-ж такі ўвалакуць. Да таго-ж, ляжачую на зямлі і прывязаную птушку або зайца

шашок цягае ў розныя бакі наколькі дазваляе даўжыня прывязі або самой прынады, што выключае магчымасьць паставіць пастку блізка, г. ёсьць наверняка.

Усялякую прынаду трэба вешаць так, каб яна толькі датыкалася зямлі. Птушку прывязваюць за ногі галавою ўніз, частку зайца (усяроўна перадок або задок, вешаць усяго зайца няма патрэбы) вешаюць адрэзаным месцам да зямлі.



Мал. 1

Прынаду пераважна вешаюць на тоўстым драўесным пні, на сьцены пабудовы або на абрывістым беразе рэчкі, адным словам так, каб зьвярок мог да яе падыйсьці толькі з аднаго боку: такім чынам яго лягчэй злавіць і ў жалезы і ў другія даўкія пасткі. Калі ёсьць прыродны сучок на патрэбнай вышыні, то прынаду прывязваюць да сучка, а ў іншым выпадку ўбіваюць драўляны калочак. Для таго, каб прынаду не раскачвала ветрам, вешаць яе патрэбна на кароткім моцным снурку, і каб прынада вісела на вышыні, крыху вышэй росту шашка, каб ён ня змог дастаць перавязкі. Такая падвеска прынады паказана на малюнку 1.

Калі хочуць вадзіць шашкоў каля пабудовы, то каля сьцяны прынаду робяць такім спосабам: на паўмэтра ад сьцяны раўналежна кладзецца або тоўстае палена або кругляк, усёроўна, даўжынёй у мэтр. Упоперак гэтага палена кладуцца два другія палены, таксама тоўстыя, такім чынам, каб доўгія іх канцы ўпіраліся ў зямлю, а кароткія ў сьцяну, гэта ёсьць доўгія ляжалі-б на палене, пакладзеным раўналежна сьцяны і ішлі-б скатам ад сьцяны да зямлі. Гэтыя палены прыціскаюцца шчыльна адно да другога і толькі ўверсе застаецца шчыліна, праз якую прапускаецца вяровачка, прымацаваная да папярэчкі.

Прынада прымацоўваецца да вяровачкі. Ад сьцяны да канцоў палена, ляжачага роўналежна сьцяне, забіваюцца ў зямлю шчыльна ў рад калкі вышынёй ад зямлі сантымэтраў 50 (малюнак 2). Гэта прыстасаваньне прымушае шашка пералязаць толькі праз палена, каб дабрацца да прынады.



Мал. 2

У месцах, дзе пабудоў няма, а ўсё паказвае на тое, што прыводзіць шашкоў можна з вялікім посьпехам, будуюць так званыя „дворыкі“ (мал. 3).

Чатырохкутнае месца ў тры чвэрткі мэтра даўжынёй, паўмэтра шырынёй і вышынёй у мэтр абгароджваюцца з трох бакоў частакольем (тонкімі палачкамі). Чацьверты, вузкі бок загараджваецца папярочнымі палачкамі толькі на чвэртку вышыні. У заднім канцы гэтага „дворыка“, каля вузкай, высокай сьценкі, упоперак „дворыка“ на верхнія канцы колышкаў, кладзецца палачка, да якой і падвешваецца прынада. Для таго, каб папасьці ў „дворык“ шашок павінен пералезьці праз нізкую сьценку.

Прынаду, па магчымасьці, неабходна хаваць ад птушак, для чаго ў асаблівасьці „дворык“ закрываецца хварасьціньнем. Лепш усяго яловым суччам. Аднак ад каго няма сродак зьберагчы прынаду,—дык гэта ад чорных пацукоў, гэты зьвярок да самай зімы жыве па ўсіх ручаёх і рэчках і вельмі часта наважваецца хадзіць да добрых прынад, есьці іх і часта пападаецца ў настарожаныя пасткі. Пазбавіцца ад гэтай твары няма магчымасьці. Адзін сродак—гэта будаваць прынады ня блізка ад вады і пабудовы.

### V. Здабыча пасткамі

У радзе выпадкаў здараецца знайсьці шашка ў вусім недаступным месцы, адкуль здабыць яго



Мал. 3

з дапамогай сабак немагчыма, або так цяжка, што сам шашок не каштуе затрачанай на яго работы. У так'х выпадках паляўнічы ставіць або самадзельныя пасткі, або капканы, які кожны паляўнічы на шашкоў, пры адпраўцы на паляваньне, павінен захапіць з сабою.

Хаця шашок зьвер просты і ўхваткі яго простыя, як кажуць прамыслоўцы, усё-ж бяз навыку яго ня зловіш. Сапраўднымі майстрамі ў лоўлі бываюць тыя паляўнічыя, якія палююць або доўга палявалі з добрымі сабакамі. Тут паляўнічы знаёміцца са звычаямі зьвяркоў, узнае тыя месцы, дзе шашкі трымаюцца, і час, калі іх трэба шукаць у тым ці іншым месцы; такім шляхам набываецца навык узнаваць „на вока“ беспамылкова месцы шашкоў і ставіць пасткі з рэдкімі няўдачамі. Калі-ж пачаць лоўлю без папярэдняй падрыхтоўкі паляваньнем з сабакамі, дык навык гэты амаль недаступны і набываецца вельм павольна і ня інакш, як пад кіраўніцтвам вопытнага кіраўніка. Лоўля шашкоў пасткамі куды лягчэй лоўлі другіх зьвяроў; усе пасткі, ужываемыя на шашкоў, не патрабуюць тых папераджальных мер чыстаты, якія ўжываюцца для лоўлі лісіц ці ваўкоў, якія баяцца людзкога паху і наогул усяго, што пахне „жыльлём“ ці потам ад голых рук чалавека. Шашок хоць і мае чуцьцё,

але ён нікольні не баіцца староньняга паху, чалавека-ж ён баіцца наогул мала. „Шашок просты"— гаворацъ прамысловікі: просты азначае дурны, таму як ён бяз усякай асьцярожнасьці ідзе ў простыя і незахаваныя пасткі, указвае на малае разьвіцьцё яго разумовых здольнасьцяй, акрамя таго ў шашка наглядаецца здольнасьць, а іменна сьмеласьць, прывычка да пралязаньня і лазаньня па самых небясьпечных і цяжкіх мясцох. Шашок сьмела ідзе ў пастку, толькі-б стаяла яна на месцы. Аднак, усякую пастку маскіруюць, але гэта робіцца не для шашка, а для таго, каб схаваць пастку ад вока людзей і ад птушак: вароны, сарокі і сойкі. Птушкі гэтыя шмат псуюць пастак з прынадамі і пападаюць самі. Яны ўзнагароджваюць паляўнічага толькі тым, што самі ідуць на прынаду. Галоўнае, што патрабуецца для ўдалай лоўлі—гэта знаёмства з норавам і звычкамі зьвяркоў.

Калі шашка ня вабіць мёртвая птушка, або заяц там, дзе шашок здаволены харчаваньнем, як было сказана ў папярэднім разьдзеле, то гэта яшчэ не азначае, што ў прывольным месцы шашка немагчыма злавіць у пастку. Ад умелага паляўнічага шашок не застрахаваны тым, што ён сыты і не чапае ніякай прынады; паляўнічы абыходзіцца і без дапамогі прынады. Пражываючы вядомы час на адным месцы, шашок мае вядомыя хады, галоўным чынам шлях, якім выходзіць на здабычу і звароч- ваецца раніцай у свае норы і логава. Але апрача гэтага галоўнага шляху звычайна ў кожнага зьвярка ёсьць яшчэ пастаянныя пераходы ў якіх-небудзь вузкіх месцах, прыкладна між кочак, дравесных пнёў або між блізка стаячымі пабудовамі. Гэтыя пастаянныя пераходы адшукваюць паляўнічыя і на іх ставяць капкан або іншыя самаловы ў халастую, як кажуць некаторыя, так, каб зьвярок, ідучы сваім звычайным шляхам, павінен быў уступіць у капкан, альбо наступіць на старажавое прыстасаваньне самалова. Лепшае, бяз сумненьня, месца, дзе зьвярок ловіцца ў халастую, ёсьць лаз нары, у якой ён праводзіць дзень. Толькі лаз такі знайсьці не заўсёды ўдаецца.

Калі мясцовасьць, у якой пасяліўся зьвярок, уяўляе для яго шмат здатных прытулкаў, прыкладна, шмат буйнага камня, або яловых пнёў, пад кожным з якіх ён знаходзіць зручнае для сябе памяшканьне, то ён і ня мае сталага логава, а праводзіць дзень то там, то тут і лавіць яго прыходзіцца ня інакш, як на пераходах. Калі-ж мясцовасьць не дае такіх выгод, то шашок селіцца ў сталым памяшканьні, нярэдка выкапваючы для гэтага знарок няглыбокія норы. Да ўваходу сталага логава зьвярок ходзіць на некаторай адлегласьці заўжды адным і тым-жа сьледам і ў кароткі час прабівае вузкую сьцежку, заметную навет для нявопытнага чалавека. На гэтай сьцежцы надзейней за ўсё ставіць пасткі. Сьцежка шашка прабіваецца не заўсёды на аднолькавай адлегласьці; часьцей яна пракладаецца на 1 да 3 сажняў. Аднак сустракаюцца сьцежкі і шмат даўжэй, што залежыць ад таго, далёка ці блізка зьвярок ходзіць на промысел. Калі далёка і ў адзін бок, то і сьцежка бывае даўжэй, а калі логава знаходзіцца ў самой мясцовасьці промыслу, то і сьцежка карацей. У некаторых выпадках сьцежак бывае некалькі, у асаблівасьці, калі ў норах жыве не адзін шашок, а некалькі дарослых або вывадак; гэта мабыць адбываецца ад таго, што кожны зьвярок ходзіць сваім асобным шляхам. Апошняе меркаваньне заснавана на тых фактах, што калі сьцежак ад нор некалькі, то на кожнай з іх ловіцца звычайна толькі адзін шашок, у рэдкіх выпадках—пара. Між іншым тыя-ж факты можна вытлумачыць і сполахам астатніх шашкоў пры выглядзе злоўленага на сьцежцы суседа, а ў выніку гэтага і застаўленьнем небясьпечнай сьцежкі.

Аднак, калі ў норах жыве некалькі шашкоў, а пастка ставіцца без псаваньня і абрываньня нор і на некаторай ад іх адлегласьці, прыкладна ня бліжэй 3 мэтраў, то шашкі нор не пакідаюць і пры выглядзе злоўленага суседа, так што іх можна бывае пералавіць усіх. Псаваць норы якім бы то ні было чынам непатрэбна, асабліва, калі яны знаходзяцца ў здатнай для лоўлі мясцовасьці, бо ўзамен злоўленых шашкоў у тыя-ж норы нярэдка прыходзяць іншыя і на працягу адной восені на адным месцы можна злавіць некалькі шашкоў.

Невялікім псаваньнем, прыкладна калі абрыць крыху выхад, шашкі ня трывожацца і прышоўшы пасьля злоўленага толькі правяць нору па свайму густу, а калі грунт мяккі, тарфяны, звычайна вырываюць сабе новы ход у сьвежым месцы. Таму старыя норы, існуючыя ўжо шмат год і ніколі не пакідаемыя шашкамі, заўжды маюць шмат ходаў і выхадаў і лавіць зьвяркоў у пасткі пры такіх норах бывае непараўнальна цяжэй з прычыны мноства ходаў, нор'іх сьцежак старых і новых, у якіх разабрацца можа толькі вопытны паляўнічы.

Соўганьне ў норы палак або пруцьцяў лічыцца самым шкодным псаваньнем нор. Нават, калі не застаўляць у норах усунутай палкі, то нара псуецца (засыпаецца) і шашок пасьля гэтага ўнікае такіх нор. Тое-ж самае неабходна сказаць і аб забіваньні каменьнем або зямлёй некаторых уваходаў, што звычайна робіцца нявопытнымі паляўнічымі ў надзеі такім чынам злавіць зьверка. Калі забіць хаця-б адзін лаз у занятай нары, то зьвярок пакідае яе ў наступную ноч.

На нор'іх сьцежках лавіць шашкоў „у халастую" параўнальна ня цяжка, аднак на пераходах гэта шмат цяжэй, бо самыя пераходы распазнаюцца па такіх ледзь прыметных адзнаках, што ўсялякаму нявопытнаму чалавеку гэта здасца кітайскай граматай. Амаль няпрыкметныя адбіткі навет не сьлядоў, а толькі кіпцей, месцамі раскіданыя адкіды або аб'едкі мышэй, якіх яшчэ не пасьпелі пададбраць сарокі або вароны, вось тыя прыметы, па якіх паляўнічы або прамысловік угадвае тое месца, дзе ходзіць шашок. Амаль непазьбеглая памылка кожнага пачынаючага паляўнічага ў лоўлі шашка заключаецца ў тым, што ён робіць прынады ў прывольных месцах. Шашкоў ловяць, ставячы пасткі з прывязана у іх прыманкай, для чаго ўжываюць кавалак птушкі, звычайна шыю або ашчыпанае крыло ці проста кусок гавядзіны. У вёсках непрамысловых раёнаў, дзе шашок дрэнна вывучан, у большасьці ставяць пасткі з прыманкай сьвініны. Сьвініну шашкі ядуць неахвотна, таму сьвініна як прынада ня вартая яе патрэбна ўнікаць. Ня кепская прыманка рыб і лягушка.

Усё, што гаварылася да гэтага часу аб лоўлі шашкоў, адносіцца да лолі па чорнатропу. Зімой лавіць лягчэй і ўдаецца сста нявопытным людзям, аднак, валодаючым у дастатковай ступені трываласьцю, як неабходнай якасьцю ўсялякага паляўнічага-прамыслаўвіка.

Па парошах шашка высьледжваюць (даходзяць сьледам) да той норы, куды ён забраўся на дзень, і ставяць пасткі так, каб шашок, вылязаючы, ня змог яе ўнікнуць, або радзей ставяць яе з прывязанай прыманкай. Апошняе, між іншым, ня так найдзена, як першае. Аднак высьледжваць шашкоў прыходзіцца толькі па няглыбокіх парошах. Калі-ж сьнег глыбокі і рыхлы, так што шашку хадзіць цяжка, ён амаль не дае сьледу і жыве ў вельмі абмежаваным раёне, пераважна ў пабудове пад падлогай сьвірну, гэта ёсьць там, дзе зьбіраюцца ў той-жа час і мышы. У гэты час знайсьці яго—справа выпадку, аднак, калі сьлед знойдзен, то спаймаць шашка ў капкан ужо ня цяжка.

Звычайна ён перабягае ад адной пабудовы да другой тым-жа сьледам і прабівае торную сьцежку, па якой ловіцца вельмі проста ў пастаўлены бяз усякіх перасьцярог капкан.

У той-жа час шашок лёгка і прываджваецца, бо здабываць мышэй зімой значна цяжэй, чым улетку і ўвосень. Калі ён знаходзіць мяса, нават сьвініну, да якой у іншы час не дакранаецца, то пачынае штодзённа наведваць і ўвалаквае вялікія кавалкі. Прыкмеціўшы, што шашок павадзіўся да мяса, адшукваюць лазейку, па якой ён ходзіць, ставяць капкан і шашок, звычайна, у першую-ж ноч пападаецца.

Калі зіма лягла рана і адразу выпала шмат пушыстага сьнегу, то здараецца, што яшчэ не разьбіўшыйся вывадак шашкоў забіраецца ў пастройку. Такі вывадак лёгка пералаўліваецца начыста ў кароткі час.

Калі шашкі ўнадзяцца хадзіць да мяса ў які-небудзь цёмны сьвіран, або ў склеп, то яны не абмяжоўваюцца начным наведваньнем, а ходзяць і ўдзень, толькі-б ня шумеў блізка чалавек. Таму шашкі нярэдка пападаюцца ў капканы і ўдзень. Здараецца, такім чынам, лавіць у адзін капкан па некалькі шашкоў у суткі.

## VI. Пасткі

Чуткасьць, лёгкасьць настарожваньня, надзейнасьць і, нарэшце, малая вага, якасныя перавагі капкана перад другімі пасткамі на шашка. Ніхто ня можа спрачацца і супроць таго, што капкану належыць і першае месца па колькасьці здабычы паміж іншых пастак на шашка.

Аднак, ня гледзячы на ўсе перавагі капкана, капкан пакуль яшчэ далёка ня ў кожнай вёсцы ёсьць, тады як няма такой вёскі, у якой ня было-б пастак на гэтага зьвярка.

Плашкі, скрынкі (паслабушкі, як гавораць у некаторых месцах), больш за ўсё распаўсюджаны ў вёсках.

Жыхар вёскі робіць пасткі гэтыя сваімі сродкамі, можна сказаць, нічога не затрачваючы: кавалкі дошак у яго знойдуцца, некалькі жалезных цьвікоў ёсьць у старых дошках, ад разламаных скрынак, тады, як капкан, па-першае, выклікае выдатак на яго пакупку, а па-другое, каб купіць капкан, трэба ехаць часта за дзесяткі кілёмэтраў ад дому, а такая паездка без расходаў не абыйдзецца. З гэтае прычыны жыхар вёскі абмяжоўваецца самадзельнымі самаловамі *).

*) Рэдакцыя часопісі „П. Б.“ зьвяртае ўвагу вагатоўчых арганізацый па задавальненьне паляўнічых капканамі.

**) Палена, расколатае напалам.



Плашка і скрынка супроцьлеглы паміж сабой: плашка цісьне, скрынка ловіць жывым. Але як плашка, так і скрынка-пастка зусім адказваюць свайму прызначэньню і ня ўступаюць з некаторага боку нават капкану. На апісаньні іх я спынюся з тым, каб пазнаёміць з будоваю гэтых нескладаных пастак тых, хто ня бачыў і ня ведае пра іх выраб.

Плашкі маюць два выгляды: пераносныя і непераносныя. Будуюцца яны па аднаму прынцыпу, розьняцца толькі па тэхнічным абсталяваньні.

Пераносная плашка разьлічана на больш працяглы тэрмін службы, зручна для пераноскі, частжова складаней па свайму тэхнічнаму абсталяваньню; непераносная плашка больш простая, па тэхнічнаму абсталяваньню прыстасавана для абслугоўваньня пэўнага месца.

Для пабудовы непераноснай плашкі патрабуюцца дзьве дошкі даўжынёй у 1 мэтр кожная, шырынёй у 15-20 сант. Першая дошка (верхняя) чым таўсьцей, тым лепш, можа быць заменена плашкай **), ніжняя—не таўсьцей $1^1/_2$ сант. (можа быць і танейй). У гэтай, ніжняй дошцы на адлегласьці 3-4 сант. ад канца, пасярэдзіне або сьверляць дзірку на паўдошкі глыбінёй, дыямэтрам прыблізна ў 5 м/м, або робяць засечку на такой-жа глыбіні, як і дзірка (засечка павялічвае чуласьць пасткі). Аб гэтым напрадзе.

Паклаўшы тоўстую дошку на тонкую, абедзьве прымацоўваюць канцамі да сьцяны дрэва, наогул, каб яна ляжала пэрпэндыкулярна тым прадметам, якія павінны быць кропкай апоры, у якой жадаюць настаражыць пастку. У сьценку ўбіваюць цьвік на вышыні мэтры $1^1/_2$ вышэй канцоў, пакладзеных дошак або карыстаюцца суччам, калі пастка настаражваецца ў дрэва або пня. Да цьвіка прывязваюць або тонкую моцную вяроўку, або кручаную бічаву. Да канца вяровачкі замацоўваецца строганая палачка, даўжынёю сантымэтраў 20-25. Палачка павінна быць конусападобная; адзін канец гэтай палачкі даводзіцца да 4 м/м з разрахункам, каб ён увайшоў свабодна ў дзірку ніжняй дошкі. Даўжыня вяровачкі да прывязанай палачкі мае мэту трымаць верхнюю дошку або плашку на вышыні 20-25 сант. ад канца ніжняй дошкі (у якой дзірка або засечка). і каб ніжняя дошка была ад зямлі сантымэтраў на 5-6.

Прыпадняўшы канец верхняй дошкі кладуць яе на верхні канец палачкі, а ніжні ўводзіцца ў дзірку ніжняй дошкі. Прычым палачка прывязваецца да вяровачкі на $^1/_3$ ад канца, які служыць апорай для верхняй дошкі.

Палачка, атрымаўшы кропку апоры ў дзірцы, трымае верхнюю дошку сваім верхнім канцом. Такім чынам, плашка настарожана. Каб павялічыць цяжар верхняй дошкі (шашок жывучы!) на яе кладуць і замацоўваюць цэглы, каменьні, цяжкія паленьні, увогуле які-небудзь цяжар. Як толькі шашок узыйдзе на дошку і дакранецца да прыманкі, дошка асядзе. У тую-ж сэкунду палачка губляе кропку апоры і шашок злоўлен (мал. 4).

Жывая вага шашка невялікая. Таму, настаражваючы пастку, трэба зрабіць яе як мага больш чулай, а дасягаецца гэта ўводам канца палачкі ў дзірку на дошцы: чым канец палачкі сядзіць менш, тым чуласьць пасткі больш. Калі-б ні прыманка, замацаваная да ніжняй дошкі (прыманка замацоўваецца на адлегласьці 10 сант. ад канца палачкі),

ня кожны шашок мог-бы быць злоўлены (часта цяжар шашка ня можа асадзіць дошку); дзякуючы-ж прыманцы, шашок парушае пакой дошкі, возячыся з прыманкай. Дошка ў такіх выпадках абавязкова асядзе. Засечка, калі павялічвае чуласьць лавушкі, то дае некаторую нявыгоду па настаражваньні і часта расчароўвае паляўнічага, па-першае, тым, што пры настаражваньні палачка часта не знаходзіць кропкі апоры ў засецы (скоўзваецца), па-другім—апускаецца ў пустую без датыканьня зьвярка. Каб унікнуць гэтых прычын засечку трэба рабіць точна пад прамым кутом, а канец палачкі плоскім і толькі калі плоскасьць палачкі будзе шчыльна прылягаць да сьценкі засечкі, плашка атрымае ўстойлівае настаражваньне.



Мал. 4.

Апрача двух дошчак даўжынёй у $^3/_4$ мэтра і таўшчынёю ў $1^1/_2$ **см** і тоўстай, так званай спускавой лучынкі, пераносная плашка мае яшчэ і раму. Рама—асобная дэталь плашкі. Чатыры бруські $7 \times 28$ **см** даўжынёю і $3 \times 3$ **см** таўшчынёю змацоўваюцца пад прамым кутом звычайна жалезнымі або драўлянымі цьвікамі. Калі пастка разьлічваецца на больш працяглы тэрмін службы, то рама апрача скрэпы цьвікамі робіцца ў замок.

Да аднаго з брускоў, меншага памеру, наглуха замацоўваюць дошчачку, якая служыць асновай, другую кладуць зьверху, а між імі павінна легчы спускавая лучынка; канцы, гэта ёсьць дошчачак і лучынкі, зьвязваюць зьлёгку вяроўкай праз скразныя дзірачкі. Да верхняга бруска прывязваюць (пасярэдзіне) гэткую-ж па форме палачку, якая апісвалася ў непераноснай плашцы па даўжыні 18 **см**.

Прыпадняўшы верхнюю дошку, яе кладуць на верхні канец палачкі, а ніжні ўводзяць у дзірку лучынкі. Лучынка мае прамежак у 4-5 **см** ад ніжняй (асноўнай) дошчачкі, калі плашка настарожана. Паклаўшы адпаведны груз на верхнюю дошчачку і замацаваўшы прыманку да спускавой лучынкі ў 15 **см** ад палачкі, мы настарожваем пастку. Плашак такіх паляўнічы робіць не адну і карыстаецца імі пры здабычы шашкоў у вызначаных угодзьдзях.

Зьвералоў часта сустракае няпрыемнасьці пры карыстаньні плашкамі каля жылых пабудоў: скрозь і паўсюду ён знаходзіць у плашцы кошку або ўласную, або суседа замест зьвярка. Гарантуюць ад такіх няпрыемнасьцяй скрынкі (паслабушкі). Пабудова скрынак нескладаная і простая; няправільна некаторыя лічаць, што рабіць скрынкі трэба фабрычным шляхам. Скрынкі, як і плашкі, вырабляюцца двух відаў: з дном і скразныя.

Чатыры адрэзкі дошкі шырынёю 15—20 **см**, таўшчынёю 2 **см**—асноўны матар'ял пры пабудове скрынак. Тры дошкі маюць даўжыню ў $^3/_4$ мэтра (можна і карацей), чацьвертая (верхняя) карацей на таўшчыню рухомай дзьверкі (задзьвіжкі). У трох дошках (двух бакавых і адной ніжняй) вырэзваюць паз. Дошкі скалачваюць жалезнымі цьвікамі, адзін канец забіваюць наглуха, у другім канцы (ухадным) падганяюць па пазу дзірку (задзьвіжку) з пад'ёмам уверх, каб дзьверка лёгка зачынялася пры паданьні. На верхняй дошцы ставіцца драўляная вілка, а ў канца дошкі, па адной прамай, на адлегласьці 10 **см** ад сьценкі дна прадоўбваюць скразную прадольную дзірку 2 **см** даўжынёю і $^1/_2$ **см** шырынёй.

Па дзірцы прыганяецца стрыжанёк так, каб ён вольна нахіляўся ўперад і назад, вісучы на драўляным ці жалезным цьвіку, будучы ўведзеным у дзірку ўнутры скрынкі. Для таго, каб ён праходзіў наскрозь усёй даўжынёю, стрыжанёк павінен мець плечкі. Такім чынам, стрыжанёк гэты будзе заўжды ў вісячым становішчы: праваліцца ўнутр затрымоўвае цьвік, выйсьці наверх—затрымоўваюць плечкі. Стрыжанок можна замяніць жалезным крукам падобным да крука ў мышалоўцы. Мая мэта перадаць пабудову гэтай басткі без мэталю (апрача цьвікоў), таму кажацца толькі аб жалезным стрыжаньку.

Апошняя дэталь пасткі—каромысла. Каромысла—драўляны брусок таўшчынёю па разьвілінцы вілкі. Даўжыня бруска азначаецца па адлегласьці ад стрыжанька да засечкі дзьверкі. Па гэтай лініі, гэта ёсьць ад засечкі дзьверкі да брусочка, азначаецца вышыня вілкі і месца яе ўстаноўкі. Засечка дзьверкі—кропка апоры аднаго канца каромысла, засечка стрыжанька—другога канца. Каромысла ў вілцы звычайна не замацоўваецца, яго можна садзіць на свабодны цьвік.

Скрынка (паслабушка) насьцярожана, калі каромысла будзе мець паказаныя тры кропкі апоры.

Прыманка замацоўваецца да канца стрыжанька ўнутры скрынкі так, каб яна вісела. З такім разрахункам і робіцца стрыжанёк. Прыманка зьяўляецца ракавой для ўсялякага зьвярка, стоіць толькі яму ўзяцца за яе.

Пры настарожваньні асаблівая ўвага павінна быць зьвернута на дзьверку, якая можа лёгка пакасіць у



Мал. 5



Малюнак 6.

час спуску, будучы няправільна падвешанай (не па цэнтру) і можа здарыцца, што ў ніжні паз пападзецца які-небудзь нежаданы прадмет, у выніку чаго дзьверка не зачыніцца шчыльна. У папярэджаньне такіх выпадкаў да дзьверкі падвешваецца груз.

Уся нескладаная мэханіка гэтай пасткі будзе яснай, стоіць толькі паглядзець на мал. 6.

Скразная скрынка (паслабушка) прызнаецца больш здабычлівай, чым скрынка з глухім дном, што зразумела: зьвярок, не задумваючыся, ідзе ў скразную дзірку і бярэцца за прыманку.

Асаблівасьць гэтай пасткі заключаецца ў тым, што маючы дзьве дзьверкі (задзьвіжкі), дзьве вілкі і два каромыслы, яна мае адну спускавую планку сярод дошкі між вілак. Планачка і заключае ў сабе ўвесь спускавы апарат, ад датыканьня да якой павінны захлопнуцца абедзьве дзьверкі.

Прыстасаваньне дзьверак, вілачкі і каромысла робіцца таксама як і ў пастцы са дном. Спускавая-ж планачка адрозьніваецца двума адпаведнымі засечкамі па абодвых бакох кожнага канца каромысла.

Каб насьцярожыць пастку, канцы каромыслаў падводзяцца адначасова пад засечкі спускавой планачкі. Супроцьлеглыя канцы каромысла трымаюць на вазе дзьверкі, маючы ў сваю чаргу кожная па вілачцы ў якасьці апоры. Ці пацягне зьвярок прыманку да сябе, ці штурхне наперад у той ці іншы бок, каромыслы губляюць кропкі апоры і дзьверы адначасова захлопваюцца (мал. 6).

З двума дзьверкамі магчымы хутчэй асечкі, гэта ёсьць тая ці іншая дзьверка можа не захлопнуцца, чаму гэта пастка патрабуе большай увагі як пры пабудове, так і пры насьцярожваньні.

Скрынкі-пасткі па-першае зручныя тым, што заўсёды можна ведаць, якая ў іх здабыча, для чаго будуюцца вакенцы з дротавым пераплётам. У дабавак гэта гарантуе ад няпрыемнасьці з кошкамі. Зручныя гэтыя пасткі тым, што злоўленага шашка вы выпускаеце ў мяшок прама з пасткі і потым можаце рабіць з ім, што патрэбна. Зрабіўшы пастку з глухім дном можна свабодна зрабіць скразную, таму няма неабходнасьці даваць дэталёвае апісаньне гэтага. Дэталёвую яснасьць уносіць мал. 7.

Есьць шмат розных плашак, пастаў і „пакляў“ для лоўлі шашкоў. Пабудова розных прыстасаваньняў залежыць ад вынаходніцкай здольнасьці паляўнічага. У некаторых месцах шашка здабываюць пры дапамозе капкана. Капканы, плашкі і скрынкі трэба прызнаць больш распаўсюджанымі пасткамі, таму мы імі і абмяжоўваемся.


Мал 7.

## VII. Як выхаджваць скуркі.

Усялякая пушніна шмат губляе ў сваёй каштоўнасьці ад таго, што большай часткай кепска „выхаджана“ здабыўшым яе паляўнічым, г. зн. кепска апрацавана. Пушніна больш, чым другі тавар, прадаецца „тварам“. Самыя лепшыя прыродныя якасьці меха—густата, лоск, адліў, роўнасьць не дадуць кошту скурцы, калі яна зморшчана, гэта зн. па зьняцьці ня была належным чынам расьцягнута, а проста сохла дзе-небудзь каля печкі, калі на ёй мех ня выглажан і г. д.

Несваячасовае зьняцьце скуркі з мёртвага зьвярка, няправільная зьёмка яе, неахайная выпраўка і ачыстка, няправільная сушка і хаваньне—часьцяком ня толькі зьніжаюць каштоўнасьць скуркі, але прыводзяць яе ў няпрыгоднасьць.

Нярэдка і цяпер можна бачыць яшчэ ў паляўнічых каапэратывах скурку, прынесеную паляўнічым для продажу з нязьнятым хвастом, або зьнятую так званым „пялячым“ спосабам. Трэба ўмець ня толькі здабыць пушнога зьвера, але і старанна выхадзіць пушніну.

Для таго, каб паляўнічы не панёс страт няўмела ці неахайна выхаджваючы пушніны і тым самым абясцэньваючы яе, трэба ўзяць за правіла: забіўшы зьвярка неабходна па магчымасьці неадкладна прыступіць да зьняцьця з яго скуркі. Калі скура доўга застанецца нязьнятай з трупа, у асаблівасьці пад дзеяньнем сонца, то мех губляе ў колеры (акрасе) і лоску (бляск, глянец), а калі-ж пры тым настане цёплы час, скурка хутка загніе.

Зьняцьце скурак утвараецца рознымі спосабамі. Здымаюць панчохай, па кароўі (адчыненая зьёмка) дыванам і г. д.

Скурку чорнага шашка трэба здымаць панчоха з агузку, захоўваючы цэлай галаву, лапы і хвост. Востраканечным ножыкам робіцца разрэз ад пяткі адной задняй нагі па ўнутранаму боку да задняга праходу; асьцярожна перарэзваецца прамая кішка ў пачатку хваста, затым разрэз вядуць ад задняга праходу да пяткі другой задняй нагі (для таго, каб не забрудзіць тлустасьцю, добра разрэзы прасыпаць бульбянай мукой, або дробнымі вотрубамі). Скура асьцярожна аддзяляецца ад мяса ног і хваста. Кіпці павінны заставацца пры скурцы. Хвост раскройваюць рэмнем. Разрэзаўшы ножыкам скурку на нязьнятым хвасьце, вы непазьбегла зрэжаце волас па разрэзу. Хоць і нязначна, але гэта ва ўсялякім выпадку непажадана. Апрача таго рабіць

разрэз вельмі няёмка. Хутка і добра здымаецца хвост пры дапамозе шчамілак ня толькі ў шашка, але і ў другіх зьвяроў.

Наогул тое, што тут будзе сказана аб зьёмцы скуркі з шашка, шмат чаго адносіцца да гэтай апэрацыі і ў другіх зьвяроў.

Калі заднія ногі зьняты і скурка аддзелена ад тушкі на задняй частцы, хвост бяруць у шчамілкі каля самага корня і трымаючы шчамілкі левай рукой, правай цягнуць тушку ўверх да сябе. Хвост зараз-жа вылушчыцца да апошняга пазванка. Разрэзаць скурку вылушчанага хваста тады лёгка, стоіць толькі ўвесьці канец вострага нажа ў дзірку скуркі хваста.

Зьёмка хваста такая тады, калі скурку здымаюць з агузка. Калі здымаюць з роту—прыём іншы: як толькі скурка зьнята да хваста і тушка падвешана,—закладваецца шчамілка і павольна націскаецца ўніз абодвума рукамі. Шчамілка павінна ціснуць у лінію злучэньня скуркі з целам, інакш скурка можа быць прарвана, хвост будзе папсаван.

Скончыўшы з хвастом (пры зьёмцы з агузка) скурку павольна заварачваюць да галавы, пры чым зьвярок павінен быць падвешан за абедзьве заднія нагі. Дайшоўшы да пярэдніх ног спачатку здымаюць адну, потым—другую, прычым папярэдня робяць разрэз ад пятак пярэдніх лап да лакцявога сачляньня кожнай з іх; ад гэтага месца, гэта ёсьць ад сачляненьня лапы павінны быць зьняты панчохай. Потым вызваляюць лапы, перарэзваючы пальцы па лініі апошніх перад кіпцямі суставаў.

Кіпці павінны заставацца пры скурцы. Скурку трэба імкнуцца здымаць як мага чысьцей, не застаўляючы мяса. Пры выварачваньні скуркі праз галаву падразаюць скуру ў вачэй, вушэй і губ, імкнучыся не рабіць на скурцы вялікіх дзірак. Нос застаецца пры скурцы, перарэзваецца толькі насавы храшч. Зьняўшы скурку, яе старанна пазбаўляюць ад тлустасьці шляхам саскрэбваньня тлустасьці тупым ножыкам, папярэдне нацягнуўшы на правілку (мал. 8) і абшорокваньнем падагрэтымі сухімі апілкамі або трухою гнілых пнёў, якія добра ўсмоктваюць у сябе тлустасьць. Трэба глядзець, каб не закрануць карані валос пры саскрэбваньні тлустасьці.

Расьцягваюць скуркі звычайна на драўляных правілках, падабраных па памерах скурак. Апраўляць скуркі лясного шашка патрэбна мехам вон, пры чым шыйку, валосы на якой значна карацей, чым на іншых частках цела, трэба садзіць па-карацей. Надаючы скурцы форму „сігары“ (мал. 8). „Бутылачка“, як кажуць другія, памойму, параўнаньне няўдалае. Першая праўка надае скурцы „твар“, а пушн на прадаецца менавіта „тварам“, як было сказана вышэй.

Нярэдка апраўляюць і сушаць скуркі шашка, набіваючы іх сенам, саломай, пакляй і нават попелам, папярэдня зьняўшы скуркі „панчохай“, праз рот з зачыненым агузком. Такі спосаб зьёмкі і апраўкі практыкуецца ў большасьці ў заходніх раёнах Саюзу.

Ужываць такі спосаб апрацоўкі скуркі ні ў якім выпадку непатрэбна, бо пры ім магчыма падапраўваньне і згараньне мяздры і апрача таго, апраўка нярэдка атрымоўваецца нявартай па форме. Ня трэба таксама здаваць шашкоў, ня зьняўшы скуркі, бо нязьнятая сваячасова скурка псуецца, а прыёмныя пункты ўлічваюць і кошт зьёмкі, і скідваюць вядомы процант па браку.

Стэпавы шашок таксама здымаецца „панчохай“ з агузка з захаваньнем галавы, лап і хваста. Скуркі белага шашка сушацца ў адрозьненьне ад чорнага шашка мяздрай наверх. Здымаць і правіць скуркі шашка-перавязкі трэба таксама, як і чорнага шашка—мехам наверх, аднак, не апраўляючы „сігарай“.

Важнай справай зьяўляецца правільная вытворчасьць высушанай скуркі і яе расьцягваньня, выпраўкі; пры гэтым неабходна дасягнуць таго, каб палоска хрыбта ўтварала прамую лінію па самой сярэдзіне скуркі, а ўсе астатнія часткі роўнамерна заставаліся на сваіх мясцох так, як на тулаве зьвярка. Неабходна сачыць, каб скурка ня была занадта расьцягнута ў даўжыню,—пушніна тады шмат губляе ад таго, што пераблытваецца волас, губляецца прыгожая поўсьць з свае ўзорнай афарбоўкай па бакох і скурка ператвараецца ў вузкую палоску. Ня трэба расьцягваць і ўшыркі, бо тады скурка прыме ўродлівы від: будзе шырокай, але непамерна кароткай.

Сушка і праўка праводзіцца на правілцы так: пасьля ачысткі ад рэшткі мяса і тлустасьці, пасаджаная на правілку мяздрай наверх у чорнага шашка і мяздрай унутры ў белага шашка, скурка старанна выгладжваецца ад зморшчак і складак і падвешваецца на правілцы галавой уверх у халаднаватым і сухім месцы, дзе скура паступова прасыхае. Ніколі ня трэба сушыць у гарачым месцы—каля натопленай печы, на сонечнай сьпякоце. Зімой сушаць у слаба-натопленым, праветрываемым пакоі, летам—у цяньку, на вятру*).

Калі перасушыць скурку, яна губляе каштоўнасьць.



Мал. 8.

*) Усё паказаньне, г. ё. сушка ўлетку, як агульнае правіла, адносіцца да скурак зьвяроў якіх дазволена забіваць улетку.

Ў зімні час, калі зьвярок вельмі замёрз, ніколі непатрэбна адаграваць яго на гарачай печы, як некаторыя робяць: скурка непазьбегла адапрэе і поўсьць палезе. Калі па зьняцьці скуркі па якіх-небудзь прычынах не прадстаўляецца магчымым адразу-ж прыступіць да яе расьцягваньня і сушкі, то ў зімні час яе можна замарозіць. Зьнятая панчохай скурка замарожваецца ўвернутым унутр валасам і мяздрой наверх. Адтайваць скурку неабходна ў цёплым пакоі і, каб адтайваньне ішло роўнамерна, скуркі падвешваюць галавой уверх. Хаваць скурку ня толькі ў сырым выглядзе, але і ў замарожаным, доўга нельга, бо ад доўгага ляжаньня прэе волас, разбураецца мяздра, перасыхаюць крывяпадцёкі і месцы з тлустасьцю; мяздра перагарае, крышыцца, а волас слабее і падцякае.

Расьцягнутая скурка сушыцца да той пары, пакуль зьнятая з правілкі яна ня будзе садзіцца, гэта ёсьць зьёжвацца.

Хаваць скуркі трэба падвешанымі або раскладзенымі ва ўсю даўжыню няшчыльнымі радамі. Прычым скуркі з тлустасьцю трэба хаваць асобна ад сухіх. Пры зьёмцы скуркі трэба старанна берагчы волас, каб не запэцкаць яго крывёю. Аднак, калі па сканчэньні сушкі будуць знойдзены ўсё-ж такі запэцканыя месцы, іх трэба абціраць вотрубамі, мукой, а для наданьня лоску (глянцу) расьціраць волас дробнымі, сухімі, гарачымі апілкамі несмалістых парод (бярозавымі, дубовымі і іншымі) а за гэтым апілкі і пыл выбіць тонкім пруцьцем Калі-ж скурка перасохла і крышыцца, то мяздру неабходна абцерці сухой анучкай, змочанай расчынам простай солі (палова сталовай лыжкі на шклянку чыстай вады).

Правілка для скурак неабходна паляўнічаму-прамысловіку таксама, як стрэльба, порах, сьвінец, шрот, лыжы, сабака і іншае паляўнічае знаражэньне,—кажуць правілы зьёмкі скурак наогул і ў прыватнасьці зьёмкі скурак шашка.

Непрамысловіку паляўнічаму нарыхтоўваць правілк, калі здабыча вельмі абмежаваная (2-3 штукі ў сэзон) бясспрэчна няма сэнсу, аднак гэта ня кажа за тое, што ён не павінен карыстацца правілкамі. Правілка—прыстасаваньне вельмі простае, не патрабуе матар'яльных затрат (кавалак тонкай дошкі знойдзецца ў кожнай гаспадарцы) і спосаб карыстаньня ёю ніякіх спэцыяльных ведаў не патрабуе, і таму кожны, здабыўшы шашка, павінен скурку пасадзіць на правілку. Правілка павінна быць зроблена па велічыні зьвярка.



## VIII. Што патрэбна ведаць, каб вызначыць поўнацэннасьць скуркі

Кожны паляўнічы, будзь ён прамысловік, паўпрамысловік або аматар, павінен уявіць сабе, што народная гаспадарка Савецкага саюзу нясе шматмільённыя страты ад незахаваньня тэрмінаў паляваньня і ад няўмелага абыходжаньня са здабытай скуркай. Адпаведную растлумачальную работу сярод насельніцтва павінны праводзіць як паляўнічыя арганізацыі, так і асобныя паляўнічыя. Толькі строгае захаваньне тэрмінаў паляваньня і аўладаньне тэхнікай апрацоўкі пушніны перавядуць паказаныя страты з пасыву ў актыў, па прыходна-расходнай кнізе пушной гаспадаркі нашага Саюзу, і тым самым гэтая-ж сума будзе ў прыходзе і паляўнічага.

Паляўнічы павінен ведаць ня толькі апрацоўку скурак, але тэхніку якаснай прыёмкі скурак і калі не на ўзроўні з работнікамі нарыхтоўчых арганізацый, то ўсё-ж мець аб ім яснае ўяўленьне.

Ведаючы час забою зьвера, няцяжка аднесьці скурку да таго ці іншага гатунку.

Між двума процілеглымі выглядамі валасяного пакрову зімнім і летнім — ёсьць дзьве пераходныя стадыі: першая — вясеньняя лінька, г. зн. зьмена зімняга воласу на летні і другая—асеньняя лінька—зьмена летняга воласу на зімні.

Азначэньне якасьці валос складаецца з наступных элемэнтаў: 1) росласьць, 2) гушчыня, 3) сьпеласьць, 4) колер.

Росласьць і гушчыня воласу залежаць ад осьці верхняга буйнага воласа і разьвітай падпушы—пуха.

Выхадная скурка павінна быць пакрыта бліскучай, эластычнай осьцю, якая ўзвышаецца, як правіла, над пухам, шчыльна пакрываючым усю мяздру. Калі осьць утварае ўражаньне стрыжанай або ня ўзвышаецца над узроўнем пуха, то скурка „не дайшла“ да першага гатунку і адносіцца да аднаго з ніжэйшых гатункаў.

Пры спрэчных экзэмплярах, а такія сустракаюцца даволі часта, трэба зварачваць увагу на сьпеласьць воласа ў частцы пуха.

Калі пры прадуваньні воласа выкрываецца наяўнасьць осьці, што прасякае пух, гэта ёсьць аснова осьці яшчэ ня ўтончана і зьмяніла афарбоўкі да зьліяньня з валаскамі пуха, то бясспрэчна скурка не дайшла. Асабліва ярка гэта выражана ў 2 і 3 гатунках белага і чорнага шашка, калі ясна бачны чорныя осьцевыя валасы, прасякаючыя пух да мяздры.

Пры азначэньні каштоўнасьці скуркі ўлічваецца наяўнасьць тых або іншых дэфэктаў. Дэфэкты бываюць рознастайныя. Плешыны, дзіркі, прастрэлы, моляедзіны, разрывы, цеклы волас, недахоп асобных частак скуркі, няправільная зьёмка, апраўка, кансэрвіроўка і гарэласьць мяздры—вось асноўны пералік дэфэктаў.

Азначыўшы гатунковасьць скуркі па часу боя, неабходна агледзець яе па дэфэктнасьці. Калі скурка вывернута даверху воласам, то неабходна прасачыць ці не прарываецца осьцевы пакроў, адкрываючы пух. У гэтым месцы неабходна прадуць і ўстанавіць або наяўнасьць плешын, або адсутнасьць осьці. Апрача таго прасоўваньнем рукі ўнутр або прашчупваньнем зьверху, у выпадку закрытага агузка, неабходна ўпэўніцца ў адсутнасьці швоў і ўставак. Правілы гэтыя для прыёмшчыка пушніны кажуць паляўнічаму, чаго ён не павінен дапускаць, каб ня зьнізіць кошт збываемай скуркі.

Прыём скурак шашкоў утвараецца па стандарту. Зьвярок падзяляецца па кражох. Апрача таго ёсьць намэнклятура.

**Стандарт** прадстаўляе сабой гандлёвую клясыфікацыю пушніны і мехавой сыравіны, якая сыстэматызуе тыповыя адзнакі і таварныя ўласьцівасьці гэтай сыравіны ў мэтах азначэньня яе якасьці і таварнай каштоўнасьці. **Краж** — агульнасьць адзнак, вылучаючая даны падвід зьвера ў адносінах атрымоўваемай ад яго пушніны ў абсобленую групу, пры чым кожнаму данаму кражу надаецца абагульняючая геаграфічная назва па магчымасьці той мясцовасьці, якая зьяўляецца асноўным пастаўшчыком данага кражу.

**Намэнклятура** — пералік усіх стандартызуемых відаў пушнін і мехсыравіны.

**Ф. А. Ляпін.**

# ЧЫТАЙЦЕ НОВЫЯ КНІГІ

## Захаваньне рыбацкіх сецей ад хуткай псоты

**Праф. М. М. Чылікін, Е. М. Іванова, М. Н. Зусман. Рацыянальныя спосабы кансэрваваньня сетак. М. Л., Снабтэхвыдав., 1932 стар. 40. 16°. Цана 45 кап. Тыр. 5.000.**

**В. В. Салаўёў. Спосабы кансэрваваньня рыбалоўных сетак. Другое выданьне. М. Л. КОВЗ, 1932. Стар. 24. 16° Цана 15 кап. Тыр. 7.060.**

Ва ўмовах перажываемага намі часу, калі рыбны промысел бурна разгортваецца, барацьба за працяг тэрмінаў прыгоднасьці рыбалоўных прыладаў набывае вялікае значэньне. Пакажам, што рыбная прамысловасьць за апошнія гады ўжывае звыш, чым на 60 мільёнаў руб. розных ільняных, пяньковых і баваўняных сеткавых матар'ялаў.

Захаваць сеткі ад хуткага знашваньня і псоты можна шляхам прымяненьня розных кансэрвіруючых прэпаратаў. Гэтаму важнаму пытаньню і прысьвечаны разьбіраемыя тут брашуры, назвы якіх апісаны вышэй.

Першая з іх, разьлічаная на падрыхтаванага чытача, тлумачыць вынікаў вопытаў, вытвараемых хіміка-фарбавальным сэктарам Навукова-дасьледчага тэкстыльнага інстытуту, па прымяненьні розных рацэптаў і спосабаў кансэрваваньня сетак. Былі прабаваны тры рода захоўваючых матэрый, а іменна: прымяненьне медзяных шыл, дубленьне і асмолка. Кожнаму з гэтых мэталаў прысьвечана асобная частка, у якой выкладаецца мэтодыка кансэрвіруючых рэагентаў і робяцца вывады аб перавагах і недахопах таго ці другога спосабу, Найбольш удалым з прапануемых рацэптаў, як паказвае і рэдактар брашуры—Б. С. Ільлін, зьяўляецца замацаваньне медзяным купарасам і хроміякам, спосаб ужо даўно прымяняемы з посьпехам за мяжой.

Другая брашура разьлічана на радавога рыбака і датычыцца таго-ж пытаньня. У ёй выкладаюцца прычыны хуткага знашваньня рыбалоўных сетак і спосабы іх захаваньня. Больш паловы брашуры занята папулярным выкладаньнем апісаных у першай брашуры вопытаў, вытвараемых Навукова-дасьледчым тэкстыльным інстытутам. **В. С.**

**В. А. Догель. Барацьба з хваробамі рыб у прудавой гаспадарцы. М. Л. КОВЗ, 1932 г. Стар. 59 22 малюнкамі, у тэксьце, 16°. Цана 65 кап. Тыр. 5060.**

У кніжцы даволі падрабязна апісваюцца важнейшыя хваробы карпаў і часткова іншых рыб, як лін, лешч, карась і інш. У адносінах кожнага захворваньня апісаны яго адзнакі, спосабы апазнаваньня, гісторыі хваробы і меры барацьбы з захворваньнем. Выкладаньне даволі даступнае.

**В. Е.**

**Буднікаў К. Н. Рак, яго разьвядзеньне і промысел. М. КОВЗ, 1932 г. Стар. 63, з 29 малюнкамі ў тэксьце, 160, Цана 35 кап. Тыр. 10.000.**

Промысел рачных ракаў і культура іх могуць адыграць буйную ролю ў нашай гаспадарцы, у асаблівасьці ў такіх раёнаў, як Беларуская ССР, Заходняя вобласьць і інш.

Брашура К. Н. Буднікава і мае сваёй мэтай зьвярнуць увагу на гэты бок выкарыстаньня прэсных водазбораў. Яна складаецца з некалькіх разьдзелаў, у якіх даюцца кароткія зьвесткі па біолёгіі рачнога рака, яго разьвіцьцю і множаньні, харчаваньню, вобразу жыцьця і г. д.; па разьвядзеньні ракаў, яго здабычы, прыладам лоўлі, утрыманьне ракаў у садках, па іх транспартыроўцы і г. д. Брашура з посьпехам можа быць рэкамэндавана кожнаму пісьменнаму рыбаку. **В. Е.**

**Каверзнеў В. Н. Прамысловыя зьвяры нашых вадазбораў. 2-е выпраўленае выданьне з 16 малюнкамі ў тэксьце. М. КОВЗ, 1931 г. Стар. 79, Цана 45 кап. Тыр. 10.000.**

У рэцэнзуемай брашуры аўтар тлумачыць пяці відаў прамысловых зьвярэй, што знаходзяцца ў нашых прэснаводных водазборах. З іх два віды—рачны бобр і выхухоль падляжаць ахове па нашым паляўнічым законам, здабываньне іх зусім забаронена. Вадзяны пацук толькі зусім нядаўна ўвайшоў у склад прамысловых жывёл. І нарэшце два віды—выдра і норка адносяцца да атраду драпежнікаў, зьяўляюцца ў нас даўно прадметам інтэнсыўнага промыслу.

Кожнаму з гэтых зьвяроў аўтар прысьвячае асобны нарыс, у якім простай і яснай мовай апавядае аб цяперашнім яго распаўсюджваньні на тэрыторыі СССР, аб важнейшых фактах і зьявах з біолёгіі зьвера, аб мэтадах яго здабываньня, зьняцьці скуркі і г. д. Кажучы аб бобрах і выхухоляй, аўтар паказвае, чаму на іх забаронена паляваньне. Увогуле кніжку Каверзнева можна з посьпехам рэкамэндаваць нашым паляўнічым і ўсім паляўнічым. **В. Е.**

# Загад па Народнаму камісарыяту Замежнага гандлю

## № 576

**15—17 жніўня 1932 г.** **г. Масква.**

Гэтым зацьвярджаю прыкладаемыя пры гэтым і ўзгодненыя з СНК СССР:

1. Правілы аб парадку ўзысканьня з загатоўчых арганізацый штрафаў за скупку прадукцыі незаконнага паляваньня.

2. Правілы аб устанаўленьні штрафаў за скупку прадукцыі незаконнага паляваньня.

3. Інструкцыю аб парадку выдачы прэмій за выкрыцьцё парушэньняў правіл паляваньня і гандлю прадукцыяй незаконнага паляваньня.

**Вык. аб. Народнага камісара ЭЛІВА.**

**Вык. аб. Нач. Адмін. Кіраўніцтва ГРОМАЎ.**

# Інструкцыя

## аб парадку выдачы прэмій за выяўленьне парушэньняў правіл паляваньня і гандлю прадукцыяй паляваньня

*(выдана на аснове арт. 2 пастановы СНК СССР ад 9 мая 1932 г. № 680). 15 жніўня 1932 г.*

Прэміяльны фонд Наркамзамежгандлю СССР, устаноўлены пастановаю СНК СССР ад 9 мая 1932 г. (З. З. СССР 1932 г. № 35 арт. 215) і складаемы з 50 проц. адлічэньняў ад штрафаў, узысканых з загатоўчых арганізацый за скупку невыхадной і забароненай да здабычы пушніны і другой прадукцыі паляваньня, мае на мэце заахвочваньне асобных арганізацый і асоб да ўзмацненьня барацьбы з незаконным паляваньнем і гандлем прадукцыяй гэтага паляваньня, наносячай вялікія страты паляўнічай гаспадарцы і зьніжаючай якасьць прадукцыі.

2. Правам на атрыманьне прэмій за выяўленьне парушэньняў правіл паляваньня, гандлю прадукцыяй яго ці перапрацоўкі гэтай прадукцыі карыстаюцца:

Лясная адміністрацыя і варта, работнікі рабоча-сялянскай міліцыі, далжнасныя асобы сельскіх саветаў і дзяржінспэктары па якасьці экспартных тавараў, гандлёвыя інспэктары, інспэктары па паляўнічай гаспадарцы НКЗГ, работнікі пушна і дзіча-загатоўчых арганізацый, члены паляўнічай каапэрацыі і паляўніча-спартыўных арганізацый (Дынамо, ваенна-паляўнічыя таварыствы), члены брыгад садзейнічаньня пры органах РК міліцыі, члены краязнаўчых арганізацый і таварыствы пралетарскага турызму, калгасаў, спэцыяльная паляўнічая варта, дзе гэткая ёсьць, а таксама асобныя грамадзяне.

3. Прэміраваньне ўтвараецца ў выпадках выяўленьня наступных парушэньняў:

а) вытварэньня паляваньня ў забароненыя тэрміны, у закрытых для паляваньня мясцох (у тым ліку і ў прыпісных паляўнічых гаспадарках без належнага дазволу гаспарганізацый) на забароненых да здабычы зьвяроў і птах і забароненымі спосабамі;

б) пакупкі, продажу, перавозкі і хаваньня прадукцыі паляваньня, забароненай да звароту пастановамі НКЗамежгандлю, СНК Саюзных ці Аўтаномных Рэспублік і Край. (Абл.) Выканкомамі, а таксама перапрацоўкі гэтай сыравіны без асобнага на тое дазволу.

4. Належаць да прэміраваньня службовыя асобы, праявіўшыя асобную актыўнасьць у барацьбе з парушэньнямі правіл паляваньня, арганізацыі нагляду і безадкладна рэалізуючыя паступаючыя да іх заявы і пратаколы аб гэтых парушэньнях.

5. Прэміяльны фонд Наркамзамежгандлю СССР ствараецца шляхам пералічэньняў Аддзяленьнямі Дзяржбанку на асобны бягучы рахунак Упаўнаркамзамежгандлю СССР 50 проц. узысканых з загатоўчых арганізацый штрафаў, згодна прав.л НКЗГ і НКФ СССР ад 15 жніўня 1932 г. „аб парадку ўзысканьня з загатоўчых арганізацый штрафу за скупку прадукцыі незаконнага паляваньня“.

6. Адказным распарадчыкам гэтых сум зьяўляецца адпаведны Ўпаўнаркамзамежгандлю.

7. Прэміраваньне ўтвараецца тройкай па прэміраваньні, ствараемай пры Упаўн. НКЗГ пад старшынством старэйшага інспэктара па паляўнічай гаспадарцы і ў складзе прадстаўнікоў НКСнабу ці Снабаддзелу і Саюзу Паляўнічай каапэрацыі.

Пастановы Тр.йкі ўступаюць у сілу пасьля зацьверджаньня іх Упаўнаркамзамежгандлю.

Тройка склікаецца інспэктарам па паляўнічай гаспадарцы пры Упаўн. НКЗГ.

Разьмер прэмій устанаўляецца ў залежнасьці ад значэньня важнасьці выяўленага парушэньня.

8. Прадстаўленьне адпаведных вестак утвараецца праз раённыя экспартныя нарады непасрэдна асобамі, выявіўшымі парушэньні, ці праз арганізацыю, членамі якой (ці на службе ў якіх) гэтыя асобы знаходзяцца. Раённыя экспартныя нарады са сваім заключэньнем накіроўваюць іх Упаўн. НКЗГ.

У гэтых вестках павінны быць указаны:

а) у чым заключаецца парушэньне (выпіска з пратаколу).

б) вынік абсьледваньня.

9. Вучот прэміяльнага фонду і справаздачнасьць па паступленьні і выдаткаваньні сум гэтага фонду ўтвараецца апаратам Упаўнаркамзамежгандлю.

10. Зьвесткі для прэміраваньня павінны прадстаўляцца ў наступныя тэрміны:

1. У райэкспартныя нарады адкрывацелямі парушэньняў у працягу 10 дзён з дня складаньня пратаколу.

2. У кіраўніцтва Упаўн. НКЗГ раённымі экспартнымі нарадамі на працягу 5 дзён з дня атрыманьня апошнімі заявы.

3. Упаўнаважанаму НКЗГ Тройкай па прэміраваньні—на працягу месяца з дня атрыманьня ў Кіраўніцтве Упаўн. НКЗГ вестак ад раённых экспартных нарад.

Увага. Для аддаленых раёнаў, з якіх не прадстаўляецца магчымым атрыманьне вестак у паказаныя вышэй тэрміны, Упаўн. НКЗГ маюць права іх падаўжаць, але з тым, аднак, каб агульны тэрмін з моманту выяўленьня і да вырашэньня Упаўн. НКЗГ аб прэміраваньні не перавышаў 4 месяцаў.

Рашэньні Упаўн. НКЗГ па пастанове Тройкі па прэміраваньні зьяўляюцца канчатковымі і павінны быць унесены на працягу 3-х дзён з дня пастановы Тройкі.

Выдача Упаўн. НКЗГ прэміі асобам, выявіўшым парушэньні, павінна быць утворана ці асабіста, калі прэміруемая асоба знаходзіцца ў месцы выдачы прэміі, ці шляхам пераводу (тэлеграфна ці поштай), з адначасовай высылкай гэтым асобам копіі пастановы аб прысуджэньні прэміі не пазьней 10 дзён пасьля зацьверджаньня пастановы Упаўн. НКЗГ.

**Дзяржінспэкцыя НКЗГ СССР па паляўнічай гаспадарцы — КАРАЕЎ.**

# Правілы

## аб парадку ўзыманьня з загатоўчых арганізацый штрафаў за скупку прадукцыі незаконнага паляваньня

**15 жніўня 1932 году**

1. На падставе арт. 1 пастановы СНК СССР ад 9-V—32 г. за № 680 (З. З. СССР 1932 г.. № 39, арт. 216) на загатоўчыя арганізацыі за скупку прадукцыі незаконнага паляваньня накладаюцца штрафы:

2. Да прадукцыі незаконнага паляваньня адносяцца:

а) скуркі, тушкі дзікіх зьвяроў і іншыя прадметы здабытых зьвяроў і птушак, паляваньне на якія зусім забаронена паўсямесна ці на тэрыторыі асобнага раёну ва ўстаноўленым парадку;

б) сьвежазабітая дзічына і сьвежазьнятыя скуркі незабароненых да паляваньня птах і дзікіх зьвяроў, скупленыя пасьля 10 дзён са дня спыненьня тэрміну дазволу паляваньня на даную дзіч ці зьвяра;

в) скуркі пушных зьвяроў, недаросшых і непераліняўшых у зімні мех (у адпаведнасьці з Усесаюзным пушным стандартам), як-та:

1. Барсук позьне-вясеньні, летні і дзіцяняты.
2. Вавёрка позьня-вясеньняя, летняя (тонкая).
3. Выдра летняя, дзіцяняты (кашлакі).
4. Гарнастай чалы (летні і вясеньні).
5. Енотападобны сабака (енот усурыйскі) летні (тонк ), позьня-вясеньні і дзіцяняты.
6. Заяц-бяляк і русак летні (чалы), позьня-вясеньні і раньня-вясеньні.
7. Кідус раньня-вясеньні, позьня-вясеньні, летні і з апаленымі валасамі (выкураны з дупла).
8. Каланок позьня-вясеньні, летні і раньня-вясеньні.
9. Каланок горны (салангой) вясеньні і летні.
10. Корсак позьня-вясеньні, летні і раньня-вясеньні.
11. Куніца мяккая і жорсткая, позьня-вясеньняя і летняя, раньня-асеньняя і з апаленымі валасамі (выкураная з дупла).
12. Лісіца чырвоная позьня-вясеньняя, летняя дзіцяняты і цяжкі падсос (самкі з агаленым чрэвам)
13. Лісіца караганка позьня-вясеньняя, летняя і дзіцяняты.
14. Лісіца-крэстоўка позьня-вясеньняя, летняя дзіцяняты.
15. Лісіца соводушка і чарнабурая позьня-вясеньняя, летняя, дзіцяняты і цяжкі падсос (самкі) з агаленым чрэвам.
16. Норка позьня-вясеньняя, летняя (трэшанка), позьня-летняя (бархатка) і дзіцяняты бяз осьці (з пухл. воласам).
17. Песец блакітны раньня-асеньні, позьня-вясеньні, летні і дзіцяняты.
18. Песец белы-сіняк, крыжавік, матуха, норнік, капанец і гагара.
19. Собаль позьня-вясеньні, летні, раньня-асеньні, асеньні і шчанюкі.
20. Сурок раньня-вясеньні, позьня-вясеньні і летні.
21. Шашок белы, позьня-вясеньні, летні (сухар).
22. Шашок-перавозчык вясеньні і летні.
23. Ласка летняя.

3. Разьмер штрафаў за скупку прадукцыі незаконнага паляваньня ўстанаўляецца праўленьнямі НКУнутранага гандлю СССР і НКФ СССР. ад 14 жніўня 1932 г.

4. Кантроль за дзеяньнямі загатоўчых арганізацый па скупцы прадукцыі незаконнага паляваньня ўскладаецца на інспэктараў паляваньня і інспэктараў па якасьці экспартных тавараў.

5. Інспэктары ўтвараюць ня менш аднаго разу ў месяц агляд ахотпрадукцыі ў натуры, а таксама правяраюць таварныя і бухгальтэрскія дакуманты і запісы на базах Саюзпушніны, у аддзяленьнях Саюзахотцэнтра і Цэнтрасыравіны і ў прадпрыемствах другіх арганізацый, якія займаюцца загатоўкай ахотпрадукцыі.

6. У выпадку знаходжаньня скупкі прадукцыі незаконнага паляваньня складаецца пратакол, у якім указваецца:

а) Найменьне і месцазнаходжаньне арганізацыі (ці філіяла арганізацыі), у якой знойдзена прадукцыя незаконнага паляваньня.

б) Назва прадукцыі незаконнага паляваньня.

в) Колькасьць прадукцыі незаконнага паляваньня кожнага віду.

г) Сума штрафу, належачага з адзінкі прадукцыі незаконнага паляваньня данага віду.

д) Агульная сума штрафу, належачая за скупку прадукцыі незаконнага паляваньня па ўсіх відах указаннай прадукцыі.

Пратакол складаецца ў 3-х экзэмплярах. Безадкладна пасьля складаньня адзін экзэмпляр перадаецца арганізацыі, у адносінах якой складзен пратакол, другі экзэмпляр накіроўваецца ў Фінаддзел па месцы знаходжаньня арганізацыі для нагляданьня за сваячасовай уплатай штрафу і апошні застаецца ў складаўшага пратакол.

7. Штраф павінен быць уплочан на працягу 10 дзён з дня перадачы арганізацыі пратаколу.

Пры няўплаце ў гэты тэрмін, штраф спаганяецца прымусовымі мерамі ў парадку ўзысканьня падаткаў.

8. Узысканыя штрафныя сумы разьмяркоўваюцца наступным чынам:

а) 50 проц. залічваецца ў даход мясцовага бюджэту,

б) 50 проц. у асобны прэміяльны фонд НКЗГ СССР для прэміраваньня асоб, знайшоўшых парушэньні правіл паляваньня і гандлю прадукцыяй паляваньня.

Паказаныя ў п. „б“ § 8 правіл сумы залічваюцца на асобны бягучы рахунак адпаведнага Упаўнаркамзамежгандлю пры СНК Саюзных і Аўтаномных Рэспублік (за выключэньнем РСФСР), Край (Абл.) Выканкомах і выкарыстоўваюцца згодна асобнай інструкцыі НКЗГ СССР і НКФ СССР „аб парадку выдачы прэмій за выяўленьне парушэньняў правіл паляваньня і гандлю прадукцыяй паляваньня ад 15 жніўня 1932 г.“.

9. Дзеяньне гэтых правіл па ўзысканьні штрафаў распаўсюджваецца на ўсю прадукцыю незаконнага паляваньня, паступіўшую на склады і базы дзяржаўных і каапэрацыйных арганізацый з 1 жніўня 1932 году.

10. Скаргі на палажэньне штрафаў прадстаўляюцца ў 10-дзённы тэрмін адпаведнаму ўпаўнаважанаму Наркамзамежгандлю, рашэньні якога зьяўляюцца канчатковымі.

11. Уплата штрафу дзяржаўнымі і каапэрацыйнымі арганізацыямі не вызваляе асобных паляўнічых і должнастных асоб загатоўчых арганізацый ад адказнасьці па існуючых артыкулах Крымінальных Кодэксаў Саюзных рэспублік.

**Дзяржінспэкцыя НКЗГ па паляўнічай гаспадарцы КАРАЕЎ.**

# Правілы

## аб устанаўленьні штрафаў за скупку прадукцыі незаконнага паляваньня

**ад 14 жніўня 1932 г.**

На падставе арт. 1 пастановы СНК СССР ад 9 мая 1932 г. № 680 „аб штрафах за незаконнае паляваньне на пушнога зьвера і другія віды паляваньня“ Наркамзамежгандлю СССР пастанаўляе:

1. Зацьвердзіць ніжэйнаступны разьмер штрафаў, накладаемых на загатоўчыя арганізацыі за скупку прадукцыі незаконнага паляваньня (з адзінкі прадукцыі):

1. Выхухаль рускі, здабыты сьвядома . . . 50 руб.
2. Бобр рачны . . . . . . . 400 „
3. Сайгак. . . . . . . . . 300 „
4. Цяляты ласёў, дзікіх аленьняў, дзікіх коз, маралаў, дзікіх баранаў, серн і г. д. ад 100 да 250 руб.
5. Плямісты алень . . . . . . . 500 „
6. Барсук пазьня-вясеньні і летняга бою і дзіцяняты . . . . . . . . . 10 „
7. Вавёрка ўсіх кражоў, позьня-вясеньняя, летняя (тонкая) . . . . . . . . 5 „
8. Выдра летняя, дзіцяняты (кашлакі). . . 200 „
9. Гарнастай (усіх кражаў) вясеньні, летні (чалы). 15 „
10. Енот усурыйскі (енотападобны сабака) позьня-вясеньні, летні (тонкі) і дзеці . . . 40 „
11. Заяц-бяляк і русак (усіх кражаў) позьня-вясеньні, летні, раньня-асеньні . . . . 5 „
12. Кідус. позьня-вясеньні, летні, раньня-асеньні, з апаленым воласам (выкураны з дупла) . 200 „
13. Каланок (усіх кражоў) позьня-вясеньні, летні (тонкі) і раньня-асеньні . . . . . 15 „
14. Каланок горны (салангой) вясеньні і летні . 3 „
15. Карсак позьня-вясеньні, летні, раньня-асеньні 15 „
16. Куніца мяккая (усіх кражоў) позьня-вясеньняя, летняя, раньня-асеньняя з апаленым воласам (выкур. з дупла) . . . . . . . 100 „
17. Куніца горская (беладушка) тых-жа сартоў . 75 „
18. Ласка летняга боя . . . . . . . 3 „
19. Лісіца чырвоная (усіх кражаў) з загатавіцельнай цаной за 1 сорт ад 20 да 27 р., позьня-вясеньняя, летняя (тонкая), цяжкі падсос (самкі з аголеным чэравам), дзеці . . . . 100 „
20. Тое-ж з заготцаной 10—16 р. Тых-жа сартоў. 50 руб
21. Лісіца-караганка тых-жа сартоў . . . . 10 „
22. Лісіца-крыжоўка (усіх кражоў) тых-жа сартоў. 150 „
23. Лісіца сівадушка . . . . . . . 100 „
24. Лісіца (чорная) чорна-срабрыстая тых-жа сартоў . . . . . . . . . 300 „
25. Норка позьня-вясеньняя, летняя, позьня-летняя (бархотка) і дзеці бяз осьці (пухл. волас). 30 „
26. Песец белы (усіх кражаў), сіняк (позьня-летні) крэтавацік (летні), матуха (самка летняга боя з падсосам), норнік і капанец (дзеці), гагара (позьня-вясеньні) . . . . . . 100 „
27. Песец блакітны, позьня-вясеньні, летні, раньня-вясеньні і шчанюкі. . . . . . 250 „
28. Собаль позьня-вясеньні, летні (тонкі), раньня-асеньні (калтан), асеньні і шчанюкі (усіх кражаў) . . . . . . . . 500 „
29. Сурок раньня-вясеньні, позьня-вясеньні, летні і шчанюкі . . . . . . . 25 „
30. Шашок белы (усіх кражаў) позьня-вясеньні, летні (сухі), раньня асеньні і шчанюкі . . 10 „
31. Шашок-перавозчык вясеньні і летні . . 6 „
32. Дзіч, здабытая ў забаронены час (усіх відаў) ад 3—50 „

2. Прадставіць Упаўнаркамзамежгандлю права ўстанаўляць на мясцох разьмеры штрафаў, накладаемых на загатоўчыя арганізацыі за скупку прадукцыі паляваньня, якая забаронена да здабычы пастановамі СНК Саюзных, Аўтаномных Рэспублік і Край (Абл.) Выканкомаў, а таксама дыфэрэнцыяваць разьмеры штрафаў па асобных відах прадукцыі паляваньня, паказаный у п. 4 і 32 арт. 1 гэтых правіл, з давядзеньнем аб тым да ведама НКЗГ СССР.

3. Парадак накладаньня і ўзысканьня штрафаў вызначаецца правіламі Наркамзамежгандлю і НКФіну СССР ад 15 жніўня 1932 году.

**Дзяржінспэкцыя НКЗГ СССР па паляўнічай гаспадарцы КАРАЕЎ.**

Рэдкалегія: **Волдынь і Вільдфлуш, Цэлеш і проф. Федзюшын.** Адказны рэдактар: **А. Вільдфлуш**



Друкарня імя Сталіна. Зак. № 2568. 12.700 экз. Галоўлітбел № 1336.

# Пастанова

## паляўнічага камітэту пры ўпаўнаважаным Наркамзамежгандлю СНКБ ад 1-га кастрычніка 1932 году

гор. Менск

### Аб падрыхтоўцы да зімовай ахоткампаніі на 1932-33 год.

Улічваючы асаблівую важнасьць 4-га завяршаючага кварталу апэрацыйнага году, на які ўскладаецца выкананьне ня толькі зацьвярджанага пляну па пушнамехавых загатоўках, але і ліквідацыя меўшага месца прарыву за мінулыя тры кварталы бягучага году, — Ахоткамітэт пры Упаўнаркамзамежгандлю БССР пастанаўляе:

1. У мэтах набліжэньня загатоўчай работы ў нізавыя зьвеньні паляўнічай сыстэмы, ліквідацыі самацёку і абязьлічкі ў рабоце, лічыць неабходным перабудаваць усю работу сыстэмы ахоткаапэрацыі Беларусі ў разрэзе апошніх рашэньняў Наркамзамежгандлю і Саюзахотцэнтру:

а) Існуючыя сельячэйкі рэарганізаваць на ахотапрамысловыя вытворчыя брыгады па тэрытарыяльным прынцыпе месцазнаходжаньня паляўнічых, закончыць рэарганізацыю да 10/XI-32 г.

б) Існуючыя пляны па пушнамехавых загатоўках па кожным раёне, сельсавеце пераразьмеркаваць і давесьці да кожнай уноў арганізуемай паляўнічай брыгады, з якімі заключыць гаспадарчыя дагавары. Адказнасьць за выкананьне ўскласьці на спэцыяльна вылучаную асобу ў брыгадзе.

в) Раённаму апарату ахоттаварыства ўстанавіць сыстэматычны інструктаж і праверку выкананьня дагавароў у брыгадах. Штомесячна да кожнага 10 чысла абавязаць райтаварыствы прадстаўляць весткі ў праўленьне Белкахотсаюзу аб выкананьні дагавароў.

2. Лічыць неабходным у межах кожнага сельсавету мець спэцыяльна вылучаных зборшчыкаў па пушнамехсыравіне з ліку старшых брыгадзіраў ці больш вопытных паляўнічых на процантных пачатках.

3. Прасачыць на мясцох аб выкананьні пастановы НКЗГ, праўленьня Калгасцэнтру і Эканомнарады пры ЭКАНА БССР аб вызваленьні на пэрыяд паляўнічага зімняга сэзону лепшых паляўнічых калгасьнікаў з вытворчых брыгад, заключыўшых дагавары на адлоў і адстрэл пушнога зьвера.

4. Да 20 кастрычніка 1932 году закончыць правядзеньне па ўсіх раёнах нарад нізавых загатаўцеляў па пытаньні задач пушнамехавых загатовак 4 кварталу 1932 году і 1-га кварталу 1933 году.

5. Канчаткова дабіцца вызваленьня старшынь і загатаўцеляй райтаварыстваў у рашаючых пушных раёнах Беларусі.

6. Выходзячы з наяўнасьці яшчэ на сёнешні дзень да 5 проц. старшынь паляўнічых таварыстваў, працуючых па сумяшчальнасьці і зьвязаных штодзённа па асноўнай рабоце з гор. Менскам, а таксама паўсядзённай неабходнасьці сувязі Белкахотсаюзу з урадавымі гаспадарчымі ворганамі і навуковымі ўстановамі,--прасіць Саўнарком БССР аб дазволе пераводу назад у гор. Менск Цэнтральнага праўленьня Белкахотсаюзу.

7. Для выкананьня пляну пушнамехавых загатовак мабілізаваць друк—насьценгазэты і часопісь „Паляўнічы Беларусі", а таксама абавязаць праўленьні райтаварыстваў сыстэматычна асьвятляць гэта ў раённых газэтах, для чаго разгарнуць работу па стварэньні кадраў нізавых карэспандэнтаў з мэтаю сыстэматычнага асьвятленьня пытаньняў загатовак. Адвесьці некалькі старонак у часопісі „Паляўнічы Беларусі" для Саюзпушніны, даручыўшы праўленьню Белкахотсаюзу і дырэкцыі Саюзпушніны дагаварыцца па гэтым пытаньні. Адначасова дабіцца сваячасовага выпуску часопісі, павялічэньня тыражу і якасьці зьмяшчаемага матар'ялу.

8. Пытаньні пушнамехавых загатовак павінны быць папулярызаваны праз усякія спосабы і мэтады масавай работы, як-та: правядзеньне гутарак аб значэньні пушнамехавых загатовак, аб правілах зьёмкі і кансэрвіроўкі пушніны, тэрмінах паляваньня, мэтадах здабычы пушнога зьвера, праз плякаты і інш.

9. Зьвярнуць увагу на існуючую ненармальнасьць у частцы снабжэньня заводамі агнебоеприпладамі, што мае важнае значэньне ў пытаньнях загатовак. Дабіцца праз адпаведныя арганізацыі выкананьня заключаных лёкальных дагавароў у вызначаныя тэрміны.

10. Поўнасьцю выжыць абязьлічку ў пытаньнях разьмеркаваньня агнебоеприпладаў у адпаведнасьці з вылучанымі плянамі і іх выкананьнем.

11. Так як вылучаемыя ў парадку плянавага снабжэньня прамфонды стымуляваньня пушнамехавых загатовак поўнасьцю забясьпечыць ня могуць, то адшукаць сродкі для павялічэньня прамфондаў за кошт самазагатовак.

12. Паставіць пытаньне перад Наркамзамежгандлю СССР аб павялічэньні завозу стрэльбаў ЦБ на 4 квартал 1932 году і на ўвесь 1933 год, маючы на ўвазе павялічэньне росту членаў саюзу паляўнічых па БССР да 30 тыс. чалавек, пры значнай наяўнасьці паляўнічых стрэльбаў шомпальнага ўзору, выбываючых з ужываньня.

13. Прыняць да ведама заяву Белкахотсаюзу аб наяўнасьці дрэннай якасьці цэлага рада агнебоеприпладаў, як-та: папяровых гільз (якія ня лезуць у стрэльбы), не адпавядаючых машынцы для закручваньня папяровых гільз, рознавіднасьць разьбы шомпалу і шомпальных шчотак і г. д. Прапанаваць Белкахотсаюзу паставіць пытаньне перад выраблюючай іх прамысловасьцю аб выжыцьці маючых месца псаваньняў выпускаемай прадукцыі.

14. Не пазьней 15 кастрычніка 32 г. пачаць правядзеньне намечаных 2-х тыднёвых курсаў загатаўцеляй у колькасьці 30 чалавек з ліку больш важных пушных раёнаў, аб'яднаўшы іх з курсамі Саюзпушніны.

15. Наладзіць апэрацыйны вучот загатовак пушнамехсыравіны, не дапускаючы скапленьня ў глыбінных пунктах, з точным прытрымліваньнем устаноўленых тэрмінаў адгрузкі загатовак пушнамехсыравіны кожную пяцідзёнку.

16. Да пачатку арганізацыі загатовак мабілізаваць увесь інструктарскі апарат, членаў праўленьня і паляўнічых для пасылкі ў раёны, з мэтаю арганізацыі і праверкі падрыхтоўкі пушнамехавых загатовак.

17. Больш рашуча ставіць пытаньне аб выжыцьці брака і саматужнага вырабу экспартнай пушніны.

18. Белкахотсаюзу дабіцца перад адпаведнымі арганізацыямі 20 тон аўсянай мукі ў лік прамфонду для выдачы лепшым здатчыкам пушніны для пракорму гончых паляўнічых сабак.

19. Так, як гончы сабака зьяўляецца непасрэдным дапаможнікам у здабычы пушніны, арганізаваць работу сэкцыі кроўнай сабакагадоўлі, дабіваючыся разьвядзеньня праз сэкцыі гончых сабак.

20. Усю работу прарабіць мэтадамі сацспаборніцтва і ўдарніцтва, устанавіўшы строгі і сыстэматычны кантроль за ўзятымі самаабавязацельствамі.

Старшыня камітэту ФЛІОР.

